Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 3 (4701) 18 студзеня 2013 г.



# Ноч Вялікіх цудаў

*Добрыя традыцыі варта падтрымліваць і развіваць. Сярод цудоўных звычаяў, ад якіх проста нельга адмаўляцца, — сустрэча Новага года па старым стылі. Ужо чацвёрты год запар Вялікі тэатр Беларусі запрашае адзначыць гэтае свята на Вялікім навагоднім балі, які адбываецца ў ноч з 13 на 14 студзеня.*

**(Заканчэнне на стар. 13.)**



## Пытанне да творцы

# Каго з літаратурных герояў вы запрасілі б на баль?



**Раіса Баравікова:**

Калі па тэлебачанні паказвалі, як праходзіў Нясвіжскі баль, я згадвала сваю драматычную паэму «Барбара Радзівіл». І безумоўна, калі б мяне як аўтара паэмы-п'есы на той баль паклікалі, я б запрасіла галоўную гераіню. Але ж не адна я пісала пра Барбару Радзівіл. Ёсць цудоўная п'еса Аляксея Дударава «Чорная панна Нясвіжа». Ёсць дзіцячы спектакль па творы Сяргея Кавалёва. Запрасіла б я і гэтых аўтараў. Думаю, Барбары Радзівіл было б цікава з імі пазнаёміцца. І пачуваліся б мы разам выключна добра.

Дарэчы, героямі маёй п'есы таксама сталі стрыечны брат Барбары Мікалай Радзівіл Чорны — уладальнік Нясвіжскага палаца — і родны брат Мікалай Радзівіл Руды. Без іх, думаецца, баль у Нясвіжы ўявіць проста немагчыма.

Ведаеце, дзякуючы пытанню «Літаратуры і мастацтва» ў мяне нават з'явілася задумка апавядання. Тэлефануе журналіст і пытаецца, каго б я запрасіла на баль. Я запрашаю Барбару Радзівіл. І што адбываецца? Яна пагаджаецца! Так бы мовіць, матэрыялізуецца. Далейшыя падзеі разгортваліся б ужо ў Нясвіжы. Сучаснасць цесна перапляталася б з гісторыяй. А так і павінна быць.



**Маргарыта Аляшкевіч:**

Запрасіла б Алеся Загорскага. Баль — гэта нешта рамантычнае, а Караткевіч ствараў самых рамантычных герояў: шляхетных, узнёслых, высакародных... Канечне, можна было б і Яўхіма з мележаўскай «Палескай хронікі» запрасіць, але хто яго ведае, што ён на тым балі ўчыніць. Раптам нап'ецца ды палезе біцца да людзей? А Загорскі — шляхціц. Выхаваны. З паненкамі ўмее належным чынам сябе паводзіць. Гжэчны кавалер.



**Рагнед Малахоўскі:**

Баль — гэта месца, дзе могуць сустрэцца ў адным часе літаратурныя героі з розных эпох і народаў. На маю думку, такую рознахарактарную атмасферу цудоўна ўпрыгожыў бы сваёй прысутнасцю партызан, камандзір батарэі Сотнікаў з аповесці Васіля Быкава.

Нягледзячы на знешнюю слабасць і хваравітасць, Сотнікаў мне імпануе сваім сапраўдным Мужчынскім духам. Ён з гонарам прайшоў праз выпрабаванні вайны і заўсёды ў самых жорсткіх і бесчалавечных сітуацыях да апошняга ўздыху заставаўся чалавекам, адданым Бацькаўшчыне, верным абавязку грамадзяніна і сваім жыццёвым ідэалам.

У наш супярэчлівы касмапалітычны час, калі перамяшаліся паняцці дабра і зла, адказнасці і абыякавасці, вернасці і здрады, калі высокія маральныя якасці штучна падменьваюцца бездухоўнасцю і амаральнасцю, калі сам вобраз Героя і Чалавека трансфармаваўся ў штосьці безаблічнае, усім нам варта ўгледзецца ў вочы героя Сотнікава. Ён мае пачуццё абавязку перад людзьмі. Не жадае перакладваць свае праблемы на плечы іншых, думае не пра сябе, а кіруецца высокімі маральнымі прынцыпамі. Пастаўлены перад выбарам жыцця і смерці, Сотнікаў здолеў прыняць смерць і тым самым паказаў веліч чалавечага духу, нязломнасць характару, непахісную веру ў будучыню.

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных журналістаў падкрэсліў, што стварэнне друкаванага грамадскапалітычнага холдынга на базе газеты «СБ. Беларусь сегодня» ў першую чаргу накіравана на павышэнне эфектыўнасці дзяржаўных СМІ. Холдынг аб'яднае газеты «СБ. Беларусь сегодня», «Рэспубліка», «Белорусская нива», «Знамя юности» і «Народную газету».

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць неабходным прыўнесці навізну ў фестываль «Славянскі базар у Віцебску».

✔Беларусь і Таджыкістан маюць намер актывізаваць культурнае і гуманітарнае супрацоўніцтва. Такую сваю пазіцыю бакі пацвердзілі на пасяджэнні таварыства «Таджыкістан — Беларусь».

✔Акцыя «Культурная сталіца года» распачалася на гэтым тыдні з гашэння паштовай маркі «Магілёў — культурная сталіца Беларусі 2013 г.».

✔У Екацерынбургу па ініцыятыве беларускай дыяспары, пасольства Беларусі ў Расіі будзе ў наступным годзе ўсталяваны помнік народнаму артысту Беларусі Уладзіміру Мулявіну.

✔100-годдзе першай пастаноўкі «Паўлінкі» Янкі Купалы адзначаць у дзень прэм'еры — 27 студзеня — у Вільнюсе, дзе п'еса ўпершыню ўвасобілася на сцэне. У гэты ж дзень будзе заменена на новую мемарыяльная дошка паэту.

✔З 8 па 13 лютага на сцэне Вялікага тэатра Беларусі артысты Нацыянальнай оперы «Эстонія» выканаюць оперы «Манон Леско», «Травіята» і балеты «Манон» і «Шчаўкунок».

✔Упершыню ў Мінску на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета 4 красавіка выступяць майстры харэаграфіі з Вялікабрытаніі, ЗША і Германіі.

✔Адкрыты конкурс вакальнага мастацтва «Хрустальны камертон» пройдзе 10 лютага ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце. Плануецца, што сёлета будзе больш як дзвесце ўдзельнікаў ва ўзросце ад 5 да 31 года.

✔Рэканструкцыю Тэатра юнага гледача плануецца завяршыць у снежні гэтага года.

✔Арыі вядомых оперных кампазітараў будуць гучаць у выкананні беларускіх артыстаў у Белай гасцёўні палаца Румянцавых-Паскевічаў 31 студзеня.

✔Міжнародная выстаўка дзіцячага малюнка «Мой партрэт для музея» адкрылася ўчора ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі ў Мінску. Праводзіцца яна пад эгідай ЮНЕСКА.

✔На гэтым тыдні заслужаная артыстка Беларусі, удзельніца «залатога» складу ансамбля «Верасы» Надзея Мікуліч адзначыла юбілей.

✔У межах праекта «Родныя даты» кампаніі «Белзнешрэклама» на мінскіх вуліцах з'явіліся білборды з выявай Еўфрасінні Полацкай. Цягам года мінчукі і жыхары некаторых абласных цэнтраў убачаць яшчэ некалькі постацей з беларускай гісторыі.

✔Каля 54 тысяч чалавек наведалі турыстычныя аб'екты Мінскай вобласці за час калядных і навагодніх свят. Прыкладна палова з іх — дзеці.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

# Без мяжы

*ЮРЫЙ САПАЖКОЎ ПРЭЗЕНТАВАЎ НОВУЮ КНІГУ «МЕЖ ДУХОМ И СЛОВОМ»*

**Часта даводзіцца чуць, што рускамоўныя пісьменнікі Беларусі ў безвыходным становішчы: маўляў, тут ім да лаўраў не прабіцца, а ў Расіі сваіх хапае.**



**Анастасія ГРЫШЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Тым не менш рускамоўныя пісьменнікі ёсць, яны працуюць, і працуюць плённа. Друкуюцца ў «Нёмане». Выдаюць кніжкі. І сваю новую кнігу «Меж духом и словом» у «Книжным салоне» прэзентаваў Юрый Сапажкоў.

Творца, вядомы як паэт, рэдактар аддзела паэзіі і сусветнай літаратуры ў часопісе «Нёман», цяпер выступіў у якасці крытыка. Дарэчы, не першы раз. Чатыры гады таму ён выдаў кнігу «На прасторы слова». Абедзве кнігі ўяўляюць сабой зборы крытычных артыкулаў і эсэ, у якіх аўтар аналізуе творчую манеру таго ці іншага пісьменніка, стылёвыя асаблівасці, прыводзіць трапныя радкі і г. д.

— Вы можаце запытацца, чаму я змясціў у кнізе вось гэтага аўтара, але не звярнуўся да іншага, не менш таленавітага і цікавага... А калі ўвогуле пішацца? Я кажу не пра вершы, тут усё зразумела. Калі пішуцца нарысы, даследаванні? Нагода тут толькі адна: калі ты чытаў пэўнага аўтара і нешта ўнутры здрыганулася. Калі сярод слоў знайшоў ідэю, падобную да вогненнага сполаху, які мусяць пабачыць усе. Вось галоўнае! — тлумачыць Юрый Сапажкоў.

Сярод герояў кнігі «Меж духом и словом» ёсць як беларускамоўныя пісьменнікі (Алесь Карлюкевіч, Алесь Разанаў, Наталка Кучмель, Раіса Баравікова, Мікола Кандратаў ды інш.), так і рускамоўныя, прыкладам, Любоў Турбіна ці Сяргей Ясенін. Дарэчы, тое, што Юрый Сапажкоў асаблівую ўвагу звярнуў на творчасць «залатой галавы» расійскай паэзіі, цалкам лагічна: аўтар кнігі таксама разанец.

Вядома ж, падчас прэзентацыі бралі слова сябры і калегі Юрыя Сапажкова. І часцей за ўсё яны адзначалі глыбакадумнасць крытыка, яго ўвагу да тэкстаў і да асобы самога творцы, дакладнасць у характарыстыках. Пісьменнік Валянцін Маслюкоў назваў эсэ Ю. Сапажкова «крытыкайспасцiжэннем», што даецца звычай толькі тым людзям, якія асабіста знаёмы са шматпакутным працэсам творчасці.

Алесь Бадак звярнуў увагу на ўнікальнасць выдання:

— Сказаць, што гэта крытыка, вельмі мала. Бо, па-першае, крытыкаў сёння шмат, а падругое, за самім словам уяўляецца нешта зануднае, нецікавае. А Юрый Сапажкоў выкарыстаў жанр эсэ: з аднаго боку, ён моцна прывязаны да дакументалістыкі, з іншага — жанр поўны мастацкасці, таму тэксты чытаюцца лёгка, нават цудоўна, нібы добры раман. Незвычайны і сам аўтар. Чалавек, які далёка не ўсё сваё жыццё жыў у Беларусі, які шмат гадоў увогуле нічога не ведаў пра нашую літаратуру, так напісаў пра беларускіх (у тым ліку) паэтаў! І гэта сапраўды вельмі здорава. Бо няма — і не павінна быць — мяжы, якая падзяляе беларускую літаратуру і рускую, ды і любыя іншыя... Калі з'яўляецца мяжа, літаратура становіцца ўсё горшай і горшай — і ўрэшце гіне. Дзе б людзі ні знаходзіліся, не павінна быць межаў паміж іх сэрцамі.

# З узнагародай!

**Шэраг прадстаўнікоў культуры ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. Адпаведныя загад і распараджэнне падпісаў Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

Так, сярод адзначаных медалём «За працоўныя заслугі» — загадчык аддзела даведачна-інфармацыйнага абслугоўвання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяна Яроха. Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны намеснік дырэктара па творчай рабоце Магілёўскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Валянціна Кандрацьева, артыстка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Вераніка Пляшкевіч.

Ганаровае званне «Заслужаны артыст Беларусі» прысвоена вядучаму майстру сцэны тэатра імя М. Горкага Аксане Лясной, «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь» — выкладчыку гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Эдуарду Кучынскаму, а «Заслужаны дзеяч культуры» — дырэктару НББ Раману Матульскаму і бібліёграфу сектара абслугоўвання НББ Таццяне Рошчынай.

Падзяка Прэзідэнта аб'яўлена таксама намесніку галоўнага рэдактара газеты «Белорусская нива» Анжаліцы Мільто.

# Смак жытняга хлеба

**Пытанне аб наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці некаторым элементам нематэрыяльнай культурнай спадчыны разглядалася ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады.**

**Рыта СТАХ**

У прыватнасці, згадваліся тэхналогія прыгатавання традыцыйнай стравы «Масляны баран» у вёсцы Мацюкова і выпечкі жытняга хлеба ў вёсцы Дзеркаўшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці; традыцыя паломніцтва і пакланення «Блакітнай крыніцы» (Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці); традыцыя праведзення дзіцячага каляднага абраду «Куры» ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці і роспісу велікодных яек у г. п. Сапоцкін Гродзенскага раёна.

Як паведаміў начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар Чарняўскі, няма сумнення, што названыя элементы павінны быць у спісе нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Усе традыцыі ідуць з глыбіні вякоў. Прынамсі, тэхналогія выпечкі жытняга хлеба захавалася, магчыма, з бронзавага веку ці яшчэ ранейшых часоў.

Рада разглядае падобныя пытанні раз на месяц, у парадку дня значацца шмат аб'ектаў матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны нашага народа.

# Пад ціхай зоркай даравання

**У канцэртнай зале «Мінск» адбыўся творчы вечар паэтэсы Валянціны Паліканінай і кампазітара ды выканаўцы Вольгі Патрый. Літаратурна-музычная імпрэза «Да будет всем любовь...» была наладжаная перад святкаваннем Старога Новага года, на ёй прагучалі вершы з новай кнігі пісьменніцы «Под тихой звездою прощенья», а таксама песні, напісаныя на яе словы.**



**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Чарговы зборнік Валянціны Паліканінай выйшаў у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» і стаў своеасаблівым прамежкавым вынікам пражытага, адчутага і асэнсаванага. Лірычна-філасофскія вершы, напоўненыя перажываннямі аўтара, на дзіва пранікнёныя і меладычныя. Творчы тандэм члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза расійскіх пісьменнікаў і Міжнароднай федэрацыі рускамоўных пісьменнікаў, лаўрэата прэстыжных рэспубліканскіх і міжнародных прэмій, уладальніцы медаля А. С. Пушкіна Валянціны Паліканінай і спявачкі, дыпламанта рэспубліканскага конкурсу артыстаў эстрады, лаўрэата міжнароднай прэміі «Філантроп», конкурсаў і фестываляў аўтарскай песні Вольгі Патрый склаўся даўно. Жанчыны выступаюць разам, супольна ствараюць атмасферу, у якой лёгка пачуваюцца прадстаўнікі сярэдняга пакалення, моладзь і ветэраны. Людзі з задавальненнем прыходзяць на іх канцэрты: агульная для ўсіх тэма жыццёвых каштоўнасцей, роздум пра дабрыню і спагадлівасць, пра мінулае і будучае, повязь пакаленняў не губляюць сваёй актуальнасці.

Падчас імпрэзы можна было набыць кнігі Валянціны Паліканінай і дыск з запісамі песень у выкананні Вольгі Патрый, створаны пры падтрымцы і актыўным удзеле Соф'і Жыбулеўскай. Усе атрыманыя грошы жанчыны вырашылі пералічыць на разліковы рахунак храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Хатляны Узданскага раёна Мінскай вобласці, які згарэў зусім нядаўна, перад святам Раства (ЦБУ 625 філіял 500, Мінскае ўпраўленне ААТ АСБ «Беларусбанк» г. Узда. УНП 600336527, р/р 3015062500160). «Я ўспрыняла гэта як асабістае гора», — падзялілася перажываннямі пісьменніца і заклікала ўсіх падтрымаць прыход храма, пабудаванага ў 1898 годзе па праекце архітэктара Канстанціна Тона. Ён жа будаваў і сабор Хрыста Збавіцеля ў Маскве.

Літабсягі

# Юбілей патрыярха

«Чалавек — сукупнасць свайго мінулага» — такую назву для выстаўкі, падрыхтаванай супрацоўнікамі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, прапанаваў сам яе герой — навуковец і пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў.

Кіра МУРАЎСКАЯ,
фота з сайта www.csl.bas-net.by

Госці вечарыны акрамя знаёмства з экспанатамі — раманамі, манаграфіямі, кнігамі крытыкі — змаглі павіншаваць Уладзіміра Васільевіча з 75-годдзем, пабачыць невялікі фільм, прысвечаны асобе літаратуразнаўца, і набыць новыя выданні: кнігу пра юбіляра «Заставацца сабой...» («Чатыры чвэрці», 2012) і даследаванне самога У. Гніламёдава «Янка Купала. Жыццё і творчасць». Дарэчы, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух падкрэсліла, што не рабіла «кнігу да юбілею»: «Я ганаруся, што мы спрычыніліся да гэтай справы. Увесь год людзі чыталі і разумелі, з кім мы жывём побач, хто наш сучаснік!»

Сябры, калегі, вучні выказвалі шчырае захапленне шматгранай дзейнасцю гэтага чалавека. «Я здзіўляюся, як ён вытрымлівае цяжар тых добрых спраў, якія робіць», — прызнаўся старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Уладзімір Васільевіч атрымаў вышэйшую ўзнагароду творчага саюза — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», а таксама ордэн «Вернасць і вера» ад Міжнароднага руху «Сям'я — Адзінства — Айчына».

І творцы, і крытыкі называлі мастацкія творы У. Гніламёдава «вяршыняй нацыянальнай літаратуры». Да слова, новы раман «Ліхалецце» публікуецца на старонках часопіса «Полымя», галоўны рэдактар якога Мікола Мятліцкі выказаўся так: «Дзякуй, што не даяце «Полымю» пагаснуць!» Даследчык Мікола Мікуліч падкрэсліў, што для аналізу і спасціжэння створанага пісьменнікам варта разглядаць яго побач з найлепшымі айчыннымі літаратарамі.

Сваю ўдзячнасць калегу-акадэміку выказалі прадстаўнікі ВАКа ды акадэмічных інстытутаў, а таксама Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, якія ўручылі падарункі і граматы ад сваіх устаноў.



Уладзімір Гніламёдаў і Мікалай Чаргінец.

Як толькі не называлі юбіляра падчас імпрэзы — Волатам, Віцязем, Патрыярхам беларускай філалогіі, Класікам айчыннай літаратуры... Сам Уладзімір Гніламёдаў падсумаваў сустрэчу, адзначыўшы, што для яго важна было пачуць добрыя словы, яшчэ раз пабачыць сяброў і калег, хаця і прызнаўся раптам: «Мне ніколі не сумна аднаму...» Можа, таму, што так шмат яшчэ трэба сказаць на старонках новых раманаў і манаграфій, таго, што не скажа ніхто, акрамя яго...

Арт-лінія

# Асоль, якая не чакала пунсовых ветразяў

Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр прадставіў увазе публікі прэм'еру балета ў дзвюх дзеях «Асоль» (дырыжор-пастаноўшчык — Алег Лясун, мастак-пастаноўшчык — Валянціна Праўдзіна) у пастаноўцы галоўнага балетмайстра класічнага балета, народнага артыста Беларусі Уладзіміра Іванова на музыку кампазітара Уладзіміра Саўчыка. У аснове балета — знакамітая аповесць Аляксандра Грына «Пунсовыя ветразі».

Дзіяна КАРОЛЬ,
фота з сайта www.musicaltheatre.by

Сапраўды, гісторыя пра непахісную веру ў цуд і сапраўднае каханне, якое перамагае ўсе нягоды, не можа не натхняць. Таксама нельга забываць, што творчасць Грына асабліва блізкая беларусам — яго бацька, Стэфан Грынявіцкі (русіфікавана Сцяпан Грыневскі) паходзіў з беларускай шляхты Дзісненскага павета Віленскай губерні (сёння Міёрскі раён Віцебскай вобласці). За ўдзел у паўстанні Каліноўскага быў сасланы ў Калывань Томскай губерні, пасля пераехаў у Вяцкую губерню, дзе яго жонка Ганна нарадзіла ў 1880 г. сына Аляксандра.

Пастаноўка «Асолі» ажыццяўлялася пры садзеянні Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

Стваральнікі спектакля прачыталі «Пунсовыя ветразі» па-свойму. Саўчык зрабіў музычнае вырашэнне далёкім ад пяшчотна-рамантычнага, Іваноў пераклаў рамантычную прозу на сучасную і экспрэсіўную мову балета. Гледачоў чакае свет жарсцяў і спакус, вандроўка ў падводнае царства, шэраг супярэчлівых уражанняў. Аднак у спектаклі няма ні пунсовых ветразяў, ні некаторых звыклых персанажаў.



Артур Іваноў у вобразе Апавядальніка.

Затое ў балеце ёсць новая дзеючая асоба — Апавядальнік (Артур Іваноў), які, магчыма, увасабляе самога аўтара аповесці. З вялікай колькасці маладых хлопцаў і дзяўчат ён выбірае гераіню будучага балета — Асоль (Міку Сузукі). Знаёмства з Апавядальнікам змяняе яе жыццё. Спачатку яна сустракаецца з русалкамі і адчувае, што сапраўднае каханне зусім побач. Аднак трэба прайсці праз шматлікія спакусы і перашкоды, спазнаць свет і саму сябе, знайсці сваё «Я», і толькі тады лёс падорыць спатканне з каханым.

Трэба адзначыць, што капітан Грэй (Дзмітрый Лазавік) таксама не паўстае перад гледачом звыклым станоўчым персанажам. Ён бунтар ад прыроды, любіць гульню ў карты, праматаў усю сваю спадчыну. Аднак пры сустрэчы з Асоль у яго сэрцы загараецца светлы агеньчык кахання. Менавіта на гэтым момацне аўтары спектакля ставяць кропку.

Повязі

# Аб'ядноўваюцца кінематаграфісты

Што мы ведаем пра аўтарскае кіно? Бадай, што самае галоўнае ў ім — незалежнасць думкі. Аўтар (ці творчая група: рэжысёр, сцэнарыст, аператар, мастак па касцюмах і г. д.) увасабляе тое, што яго найбольш кранула, пра што хоча сказаць і... ведае, як! Каб глядач убачыў і зразумеў аўтарскую задуму ўсю цалкам.

Ірына ТУЛУПАВА

А што ведаем пра кіно кароткаметражнае? Бадай, тое ж: яно патрабуе самаарганізацыі (інačай не зможаш сказаць коратка і таленавіта!), дэцэнтралізацыі (груваcткія структуры не ўціснуць у «кароткі метр»), узаемадапамогі (інакш як за справіцца з усёй працай па здымках, мантажы, агучванні...), адкрытасці і празрыстасці. Вось гэтыя прынцыпы і леглі ў аснову сацыяльнага праекта «Cinema Perpetuum Mobile», які ствараецца энтузіястамі і збірае зацікаўленых на аднаймення фестываль ужо другі год запар.

Міжнародны фестываль кароткаметражных фільмаў 2013 года, арганізатарам якога выступае аб'яднанне «Kinaklub.org» (пры падтрымцы «Белвідэацэнтра»), праходзіць з 12 па 20 студзеня. Прычым, на розных пляцоўках Мінска. Але адначасова конкурсныя работы можна прагледзець і ў іншых абласных цэнтрах і буйных гарадах Беларусі: у Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне, Лідзе, Мазыры, Наваполацку, Салігорску. Паказы міжнароднай праграмы пройдуць у 14 краінах свету: у Мексіцы, Вялікабрытаніі, Партугаліі, Швейцарыі, Італіі, Аўстрыі ды інш. Да статыстыкі можам дадаць: фестываль сабраў больш як 300 фільмаў з 41 краіны свету. Прычым жанры — самыя розныя: ігравое кіно і дакументальнае, анімацыя, эксперыментальнае кіно і музычнае відэа, дзіцяча-юнацкае кіно. Фестываль прысутнічае і ў прасторы, і ў часе, выкарыстоўвае традыцыйныя і інавацыйныя тэхналогіі. Галоўнае — дасягнуць мэты: садзейнічаць культурнай разнастайнасці ў кіно.

Дарэчы, ёсць і пазаконкурсныя паказы. Да прыкладу, у праграме анімацыі прадстаўлены фільмы пра зомбі, Франкенштэйна, чарапах, пра вавёрку і васьміннога... Сёння яшчэ ў межах эксперыментальнага кіно ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва будуць прадстаўлены такія фільмы, як «Шкляная малака» расійскага рэжысёра Ягора Чычканава (гэта шасціхвілінная містычная драма); фільм



Кадр з фільма «Пясочніца».

рэжысёра Карын Брэк «Я гэта я», жанр якога вызначаны як дакументальна-паэтычны эксперымент; «Страшны шок» рэжысёраў Ані Дорнідэн і Хуан Давіда Гансалес Манро з Германіі.

У журы фестывалю запрошаны пісьменнікі, рэжысёры, акцёры і сцэнарысты таксама з розных краін. Адбываецца прадметны, зацікаўлены дыялог культур.

Абрысы

➤ Завяршыўся конкурс апавяданняў газеты «Звязда». Лепшымі творамі былі прызнаны «Сейбіт» Марыны Яўсейчык (1-я прэмія), «Дом» Уладзіміра Сціпана (2-я прэмія), «Апошняе паляванне Марэны» Аляксандра Вашчанкі (3-я прэмія). Пераможцы атрымаюць грашовую ўзнагароду. Спецыяльнага дыплома і памятнага падарунка ад «Звязды» ўдастоены Навум Гальпяровіч за апавяданне «Брат». Творы пераможцаў чытачы могуць знайсці на старонках газеты за 2012 год.

Аліса НЕСЦЕРАВА

➤ Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрасіў на чарговую імпрэзу ў межах праекта «Сустрэчы з супрацоўнікамі рэдакцый часопісаў і газет творчай інтэлігенцыі Беларусі». Госцем гэтага тыдня стала «Краязнаўчая газета» Беларускага фонду культуры. Сярод выступоўцаў — прадстаўнікі рэдкалегіі і пастаянныя аўтары: прафесар Вячаслаў Рагойша, прафесар Адам Мальдзіс і іншыя вядомыя беларускія краязнаўцы, пісьменнікі і навукоўцы.

Алеся БАЦЮСЬ

➤ Выстаўка «Свет шахмат» з прыватнай калекцыі Рыгора Пашкова адкрыецца 30 студзеня ў Палацава-паркавым ансамблі XVI — XIX стст. у г. Нясвіжы. Унікальная калекцыя ўключае 12 розных набораў, кожны з якіх увасабляе альбо маштабную гістарычную падзею альбо фантазію, прыдумку аўтара. Гэта «Турнір», «Амазонкі», «Пётр І», «Карнавал», «Карабель». Рыгор Пашкоў пачаў займацца вырабам шахмат прыкладна 20 год таму, калі з'явілася ідэя паяднаць разам тры яго захапленні: шахматы, гісторыю і кераміку. Фігуры вышынёй да 25 сантыметраў уражваюць разнастайнасцю колераў, мноствам дробных дэталяў. Складана паверыць, што кожная з іх — абсалютна цэльная, створаная з фарфору, каштоўных камянёў і рознакаляровых паліваў.

Дзіяна КАРОЛЬ

➤ Кінатэатры Мінска рыхтуюць адразу два сюрпрызы. У першым паўгоддзі яны канчаткова пяройдуць на лічбавыя тэхналогіі, што абумоўлена ў першую чаргу пераходам на лічбу вытворцаў фільмаў. Таму калі не зрабіць гэта сёння, у хуткім часе з'явіцца пытанне з рэпертуарам. Другі прыемны падарунак — магчымасць набываць квіткі праз інтэрнэт, што можна зрабіць ужо на гэтым тыдні. Першыя тут — «Кастрычнік» і Дом кіно. Цягам трох-чатырох месяцаў далучацца і астатнія сталічныя кінатэатры.

Таццяна МАСТОЎСКАЯ

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокае спачуванне ганароваму члену СПБ Беляжэнку Барысу Паўлавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.

# Мудрасць дзіцячай дабрыні

**У памяці — «Бярозка» 1970 — 1980-х... У памяці — дзясяткі імёнаў юных паэтаў, празаікаў, мастакоў. І ў памяці — пісьменніцкая каманда, якая гэтую дзетвару пеставала, выхоўвала, выводзіла ў свет літаратуры і журналістыкі. Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Алена Мімрык, Георгій Чыгір... І ў іх кагорце — спакойны і добразычлівы Мікола Чарняўскі. Больш як дваццаць гадоў аддаў паэт працы ў дзіцячым часопісе. І яго асабістая заслуга ў тым, што шмат хто з юных карэспандэнтаў «Бярозкі» звязаў свой лёс з літаратурай і журналістыкай.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Першая кніга вершаў Міколы Чарняўскага пабачыла свет у 1963 годзе. Паэту толькі споўнілася 20... На зборнік вершаў «Дзе лета канчаецца» адгукнуліся Еўдакія Лось у «Чырвонай змене» і Васіль Макарэвіч у «Літаратуры і мастацтве». Лімаўская рэцэнзія называлася «Цёпла, задушэўна». Цеплыня, душэўная чуласць, сардэчная дабрыня з самага пачатку сталі выразнымі рысамі паэзіі Міколы Чарняўскага. Відаць гэта і па назвах яго кніг — «Чалавечнасць», «Хто сябруе з добрым днём?», «Аб чым пяе крынічка», «Сонца ў хованкі гуляе...»

Асобная дзялянка ў творчасці Мікалая Мікалаевіча — сатырычная, гумарыстычная паэзія. М. Чарняўскі — даўні аўтар «Вожыка». А назвы кніг у «Бібліятэцы "Вожыка"» гавораць самі за сябе — «Казёл-моднік», «Нашто бабе агарод...» Былі і іншыя выданні пародый, гумарэсак, вершаваных жартаў — «Камар на матацыкле», «Лёкса ў люксе...» Сатырычныя творы М. Чарняўскага ў розныя гады друкаваліся ў зборніках «Дзень паэзіі», у газеце «Літаратура і мастацтва», іншых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданнях.

І, канечне ж, ці не з самага пачатку творчай дарогі літаратар актыўна выступае як перакладчык дзіцячай паэзіі народаў свету. Нядаўна выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» істотную частку гэтых перакладаў выдала асобнай кнігай, што даўно ўжо і варта было зрабіць. Увазе чытачоў прадстаўлены вершы рускіх, украінскіх, туркменскіх, таджыкскіх, узбекскіх, эстонскіх, грузінскіх паэтаў, творцаў іншых народаў. Але не памылюся, калі скажу, што такая своеасаблівая аўтарская перакладчыцкая анталогія магла б быць у два, а то і ў тры разы большая. Мо з часам выдаўцы яшчэ звернуцца да перакладаў М. Чарняўскага. Дарэчы, у выпадку з некаторымі паэтамі іншых народаў беларускі мастак слова мог бы і асобныя кнігі выдаць: напрыклад, туркмена Азата Рахманава, якога наш юбіляр перакладаў на працягу некалькіх гадоў. Між іншым, да туркменскай дзіцячай паэзіі Мікола Чарняўскі асабліва ўважлівы. Ён перакладаў не толькі Азата Рахманава, але і Нуры Байрамава, Пірнепеса Авезліева, Каюма Тангрыкуліева, Акджамал Амараву... Ізноў жа сабраныя разам гэтыя пераклады маглі б стаць асобнай кнігай.

У розны час пра творчасць Міколы Чарняўскага пісалі Рыгор Барадулін, Маргарыта Яфімава, Васіль Зуёнак, Яўген Каршукоў, Міхась Даніленка, Васіль Ткачоў, Анатоль Зэкаў, Уладзімір Гніламёдаў, Ніна Галіноўская, Святлана Хорсун, Казімір Камейша, іншыя крытыкі, калегі па творчым цэху, паэты, якія самі настойліва працуюць у галіне дзіцячай літаратуры. «Урокі чалавечнасці», «Заяўлена: чалавечнасць», «З любоўю да дзяцей», «У падарунак — усмешку» — лейтматыў творчасці М. Чарняўскага адлюстраваны ў назвах артыкулаў і рэцэнзій.

І ўсё ж мне падаецца, што па абсягах зробленага ў літаратуры яе сціплым працаўніком, які найперш дзіцячай паэзіі аддаў паўвека свайго жыцця, Мікалай Мікалаевіч заслугоўвае большага. І асобнай манаграфіі пра яго творчасць беларускай літаратурна-мастацкай крытыцы нестае. І грунтоўным томам у масавай «Школьнай бібліятэцы» даўно пара ўвашыць сапраўднага майстра. А тым самым — уважыць і чытача, і педагогаў, якія выкладаюць родную літаратуру. Сёння ўжо прыйшоў той час, калі павярхоўна ставіцца да дзіцячай літаратуры, да дзіцячага чытання проста небяспечна.

# Паэт. Настаўнік. Чалавек

**Алесь БАДАК,**
**фота Кастуся Дробава**

## ПАЭТ

Калі хочаш вярнуцца ў мінулае, пакінь пра яго сабе што-небудзь на ўспамін.

Бываючы ў роднай вёсцы, у маці, я часам дастаю з шафы даўнія, 1970-х гадоў, нумары часопіса «Бярозка». Я гартаю іх і вяртаюся ў сваё дзяцінства.

Калісьці дзякуючы ім я ўпершыню пазнаёміўся з паэзіяй Міколы Чарняўскага. Увогуле, вяртацца да прачытаных даўным-даўно твораў небяспечна: у іх — з вышыні свайго жыццёвага і чытацкага вопыту — часам можна лёгка расчаравацца. Але ў дадзеным выпадку мой вопыт толькі ўзмацняе ўва мне даўняе перакананне: Мікола Чарняўскі валодае рэдкім дарам — займальна і цікава пісаць не толькі для дашкольнікаў, не толькі для дзяцей малодшага, але і сярэдняга школьнага ўзросту. Я маю на ўвазе вершы пра канкрэтна школьнае жыццё: пра вучобу, пра ўзаемаадносіны паміж вучнямі, паміж вучнямі і настаўнікамі. У тым ліку і — прыкмета часу! — пра піянерскія справы і атрыбуты. Што ж, і гэтыя вершы не пашкодзіла б расшукаць сённяшняй піянерыі, каб на якой-небудзь урачыстасці пачытаць са сцэны на памяць па-беларуску.

Пакінем мудрым і аўтарытэтным крытыкам права паразважаць над тым, у чым сакрэт прыцягальнасці дзіцячых вершаў Міколы Чарняўскага (на жаль, яго творчасць па-належнаму ўсё яшчэ так і не прааналізавана), я ж хачу звярнуць увагу толькі на два моманты. Па-першае, паэт цудоўна валодае такім няпростым інструментам, як гумар. Гэта для яго родная стыхія, што знайшло адлюстраванне і ў кнігах сатыры і гумару для дарослых: «Казёл-моднік», «І не косяць, і не жнуць...», «Нашто бабе агарод?», «Камар на матацыкле», «Лёкса ў люксе», «У трох соснах...» Дзеці дасціпны гумар асабліва любяць, невыпадкова рэдка які класічны твор абыходзіцца зусім без яго. Гэта і ў паэзіі (перачытайма таго ж Васіля Вітку ці «Міхасёвы прыгоды» Якуба Коласа), гэта і ў прозе (успомнім «Міколку-паравоза» альбо «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» Міхася Лынькова).

Вершы Міколы Чарняўскага наскрозь пранізаны гумарам і часам на «прататы-паў» могуць уздзейнічаць лепш, чым заўвагі і нараканні настаўнікаў:

*Што ў Святланкі за язык?*
*Балбатаць штодня прывык.*
*Памаўчаў бы*
*Хоць хвілінку,*
*Ды яму*
*Няма спачынку:*
*Ці то ўрок, ці перапынак, —*
*Меніць шпарка,*
*Без запінак!*
*Праўда, ён цішэе трошкі,*
*Калі Света —*
*Каля дошкі...*

Другая несумненная якасць твораў Міколы Чарняўскага, на якую хочацца звярнуць увагу, мае дачыненне не толькі да ўласна паэзіі, але і да псіхалогіі. Справа ў тым, што яго вершы напоўнены незвычайнай дабрынёй, якая можа нарадзіцца толькі ад незвычайнай любові да дзяцей. Зразумела, усе ці амаль усе мы лічым, што любім дзяцей. Аднак пры гэтым часцей за ўсё глядзім на іх з вышыні свайго ўзросту і размаўляем паблажліва-павучальна. Адсюль бясконцыя «Вось вырасцеш — тады зразумееш» і «Табе яшчэ рана гэта ведаць». І толькі ўменне быць на роўных з імі дае права быць сваім у іх свеце, і толькі гэта ў выніку можа нарадзіць такія шэдэўры, як незабыўны купалаўскі «Хлопчык і лётчык». Не сумняваюся, што і Мікола Чарняўскі свой у гэтым свеце, які большасць з нас проста не заўважае, праходзячы праз яго, як праз сонечныя промні.

Нядаўна ў аўтобусе, пасля таго як прагучала з дынаміка «Прыпынак "Вуліца Слабадская"», за маёй спіной маленькая дзяўчынка здзіўлена спытала ў маці: «А што, на вуліцы Слабадской адны слабыя жывуць?» Такое пытанне можа нарадзіцца толькі ў гэтым, нябачным для большасці з нас, свеце.

## НАСТАЎНІК

Я па сённяшні дзень захоўваю лісты, якія мне, тады яшчэ школьніку, пісаў з «Бярозкі» Мікола Чарняўскі. Думаю, такія лісты за яго подпісам зберог далёка не адзін я: у часопісе Мікалай Мікалаевіч прапрацаваў 22 гады — гэта колькі пачаткоўцаў прайшло праз яго! А яшчэ ж было 18 гадоў працы ў «Вясёлцы», ды паралельна з вячэрняй вучобай на філфаку Белдзяржуніверсітэта — праца ў «Піянеры Беларусі» з правам адказваць на літаратурную пошту. Цікава, што адным з першых яго «вучняў» быў... Казімір Камейша, аднагодак, які тады, пэўна, і не здагадваўся, што яму адказваў, па сутнасці, такі ж паэт-пачатковец.

Увогуле, праца ў дзіцячым літаратурным выданні досыць спецыфічная. Калі пагартаць архіў той жа «Бярозкі» за 60-я, 70-я ці 80-я гады, няцяжка пераканацца: рэдка хто з паэтаў, як тыя ж





*Мікола Чарняўскі на чарговай сустрэчы з юнымі аматарамі паэтычнага слова.*

Яўгенія Янішчыц альбо Алесь Разанаў, ужо ў школе пісалі вершы, якія не грэх было б надрукаваць нават у «Маладосці». Часцей творы былі простыя, без асаблівых прэтэнзій на арыгінальнасць, і толькі па адным-двух радках, па нечаканай рыфме ці тэме, па адным свежым вобразе, альбо ўвогуле па нечым няўлоўным, невытлумачальным можна было прадказаць, што з юнага аўтара з часам атрымаецца цікавы творца, які ў сілах шмат зрабіць для развіцця айчыннага прыгожага пісьменства. Мікола Чарняўскі прадказваў і «вёў» яго ў вялікую літаратуру. Зрэшты, ён увогуле заўсёды неабыякавы да тых, хто спрабуе свае сілы ў паэзіі ці прозе: захапленне творчасцю можа аказацца часовым, але яно дапаможа вырасці добрым чалавекам. З такімі перакананнямі Мікола Чарняўскі жыве ўсё сваё свядомае жыццё. Таму шмат гадоў — амаль трыццаць! — паралельна з працай у рэдакцыях дзіцячых выданняў вёў на Беларускім радыё перадачу «Першыя сцяжынкі». Колькі па гэтых віртуальных сцяжынках прайшло юных аўтараў, колькі імёнаў упершыню прагучала, бадай, не скажа і ён сам. І колькасць іх усё расце, бо і сёння ён не можа без сваёй любімай працы, без дзяцей, без гэтых пакуль яшчэ наіўных дзіцячых радкоў, у якіх, між тым, ёсць галоўнае: уменне здзіўляцца свету, яго прыгажосці, уменне здзіўляцца знойдзенай рыфме, уменне складаць са звычайных слоў рытмічныя радкі, як са звычайных шкельцаў — дзівосныя ўзоры ў калейдаскопе. Не можа, таму паранейшаму і кіруе літаратурнай суполкай «Купалінка», якая аб'ядноўвае юных творцаў Мінскага раёна. Таму з ахвотай адгукаецца, калі яго запрашаюць у журы Мінскага абласнога фестывалю юных талентаў Міншчыны, што рэгулярна праходзіць на базе Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна. Таму часта выступае перад дзецьмі, чытае ім свае вершы: раптам у кагосьці з'явіцца ахвота і самому паспрабаваць сілы ў літаратурнай творчасці.

## ЧАЛАВЕК

Калісьці мы, тады студэнты-філфакаўцы, сабраўшыся на кватэры аднакурсніка, добрую гадзіну дыскутавалі пра тое, ці абавязкова сапраўдны пісьменнік павінен быць добрым чалавекам — узорам для астатніх. Да адзінай думкі так і не прыйшлі, ды і сёння я не гатовы адназначна адказаць на гэтае пытанне. Але без усялякага сумнення магу сказаць адносна асобы Міколы Чарняўскага: яго характар, яго сэрца — у яго вершах. Вясёлых і часам крышачку сумных, адрасаваных дарослым і напісаных для дзяцей. Але абавязкова светлых, добрых, шчырых. Сваю першую «дарослую» кнігу, якая пабачыла свет у 1971 годзе, ён назваў «Чалавечнасць», як бы сцвярджаючы: вось тое галоўнае, што павінна быць у людзях, у кожным з нас. Хочацца дадаць: вось тое галоўнае, чаму па працягу дзесяцігоддзяў сам Мікалай Мікалаевіч вучыць юных паэтаў.

Збіраючыся пісаць гэтыя радкі пра Міколу Чарняўскага, я перачытаў яго лісты да мяне — яшчэ таго, «бярозкаўскага», перыяду. Перачытаў і, здаецца, з нейкім здзіўлена-шчымлівым пачуццём, з аглядкаю і на свой узрост падумаў пра тое, што тады, на самым пачатку 80-х, іх аўтару не было яшчэ і сарака. А ён мне, школьніку, уяўляўся гэткім сталым (можа нават такім, як цяпер) і чамусьці вельмі ужо сур'ёзным чалавекам. Сёння ж, наадварот, не верыцца, што Мікалаю Мікалаевічу — семдзесят. Можа і праўда, не толькі сапраўдныя творы, але і сапраўдныя дзіцячыя творцы не маюць узросту. Прынамсі, пакуль не перастаюць пісаць. А я глыбока перакананы, што Мікола Чарняўскі здраджваць літаратуры на карысць якому-небудзь іншаму занятку не збіраецца. На радасць шматлікім прыхільнікам яго таленту.

*Далёкія і блізкія суродзічы*

# Яго час не сышоў

У Смаргоні ў 1905 годзе нарадзіўся рускі дзіцячы пісьменнік Якаў Тайц, кнігі якога перавыдаюцца масавымі тыражамі і цяпер, праз паўвека пасля яго смерці.

Мікола ПРЫТЫКА

Надоўга ў маёй хатняй бібліятэцы большасць яго кніг не затрымлівалася. Па прычыне самай празаічнай: у асноўным тоненькія, у мяккай папяровай вокладцы, яны чыталіся самымі маленькімі. І не заўсёды, на вялікі жаль, кніжачкі мелі адпаведнае абыходжанне. Праўда, часам, перабіраючы старую бібліятэку, натрапляеш і на іх кідкія, уражлівыя вокладкі... Зірнеш на іншы, здавалася б, дастаткова просты малюнак — і перад вачыма ўзнікае процьма светлых і добрых асацыяцый. Дапамагаюць гэтаму і таленавітыя кніжныя графікі, якія ў розныя гады ілюстравалі творы Якава Тайца...

У выдатнай кнізе персаналій «Людзі культуры з Гродзеншчыны» даследчык Аляксей Пяткевіч расказвае пра Якава Тайца і яго бацьку — яўрэйскага пісьменніка Майсея Тайца, які нарадзіўся ў мястэчку Вартачы Астравецкага раёна. Тайц-старэйшы (нарадзіўся ў 1882 годзе, памёр у Маскве ў 1935-м) пісаў на ідыш. Друкаваўся з 1902 года. Дзве кнігі і сваімі назвамі ўказваюць на сувязь з Беларуссю — зборнік апавяданняў «Кара Смаргоні» і паэма «Беларусь». Абедзве пабачылі свет у 1930-м... Але і ў іншых творах Тайца-старэйшага хапае беларускіх сюжэтаў.

Сваю дарогу ў літаратуру сын пісьменніка пачаў у 1930-м... Першая кніга — зборнік апавяданняў «Крыўдная каманда» — выдадзеная ў 1931 годзе. А літаратурнай працы папярэднічалі іншыя клопаты. Бацькоўскі пісьменніцкі занятак быў, мяркуючы па ўсім, не дужа прыбытковым. Даводзілася часта перавязджаць. Ды і Майсей Тайц яшчэ ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху. Здаралася, што трапляў пад арышт. З 1917 года сям'я жыла ў Харкаве. Тады гэты горад быў сапраўдным цэнтрам літаратурнага, культурнага, мастацкага жыцця на Украіне. Якаў паступіў у мастацкую школу. А ў 1920 годзе разам з бацькамі пераехаў у Маскву. У 1929-м скончыў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут. Славуты «ВХУТЕМАС». Аднакашнікі Якава сталі славутымі архітэктарамі. А вось Якаў пасля заканчэння вучобы працаваў цынкографам у друкарні. Затым служыў у войску. А пасля заняўся афармленнем кніг.

Ды ўжо першыя публікацыі пераканаўча паказалі, што галоўным клопатам жыцця павінна стаць літаратура. Прычым, літаратура, адрасаваная дзецям ці напісаная пра дзяцей. Следам за зборнікам «Крыўдная каманда» выходзяць кнігі «Аповед сігнальшчыка» (1931) і «Сігнальшчык» (1933), «Два апавяданні» (1935) і «Адкуль ты?» (1935). Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны з'явілася яшчэ ці не з дзясятак кніг... У 1936 годзе літаратуразнаўца, крытык Яўгенія Таратута выступіла ў часопісе «Детская литература» з грунтоўнай рэцэнзіяй «Маленькія апавяданні Я. Тайца». Ужо тады стала зразумела, што і ў межах малой формы, у межах кароткага апавядання пісьменнік здольны сказаць галоўнае, здольны выканаць важную місію дзіцячай літаратуры — даць урок дабрыні, справядлівасці, навучыць юнага чытача з піетэтам ставіцца да дарослых, любіць прыроду.

...Зазірнуўшы ў другі том «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі» (1964), я знайшоў артыкул «Дзіцячая літаратура», якому адведзена 6 вялікіх старонак. Падумалася, а ці знайшлося тут месца Якаву Тайцу... Так, знайшлося!.. «Жыццю савецкіх дзяцей, важнейшым пытанням камуністычнай маралі, узаемаадносінам з таварышамі, з бацькамі і педагогамі, удзелу школьнікаў у грамадскім жыцці, выбару будучага поля дзейнасці прысвечаны вядомыя аповесці і апавяданні М. Багданава, Л. Будагоскай, І. Васіленка, Л. Варанковай, С. Георгіеўскай, А. Ільіной, Я. Тайца, А. Рыбакова і інш. пісьменнікаў...» Стылістыка зразумелая. Вось нядаўна і ў артыкуле пра досыць вядомага, аднаго з самых тыражных савецкіх дзіцячых пісьменнікаў — Юрыя Якаўлева (можа быць, памятаеце, гэта аўтар апавядання «Дарога ў Сакольнікі» і іншых твораў пра У. Леніна) прачытаў: «Творы, надрукаваныя Якаўлевым ў 1990-ыя гг., ясна гаварылі пра тое, што яго літаратурны час сышоў...» Не пагаджуся. І ў тым ліку — і ў дачыненні да многіх іншых твораў Якаўлева, і тым болей у дачыненні да многіх апавяданняў Якава Тайца, які пайшоў з жыцця ў 1957 годзе. Мяркуйце самі. 2006 год — выходзіць дастаткова тыражная кніга, дзе разам сабраныя творы Леаніда Панцялеева, Віталія Біянкі, Барыса Жыткова, Вольгі Высоцкай і Якава Тайца. А ў 1989 годзе кніга нашага земляка пад назвай «Дом» пабачыла свет у маскоўскай «Детской литературе» накладам два мільёны асобнікаў (!). «Мой першы букет» выходзіла пасля смерці аўтара тройчы — у 1967, 1970, 1989 гг. У 1958-м, калі Якава Майсеевіча не стала, адзін за адным да чытача прыйшлі тры ёмістыя зборнікі яго прозы — «Нязгаснае святло» (238 старонак), «Савецкай краіны піянер» (592 старонкі), «Салдацкі подзвіг» (203 старонкі).

Гартаючы гэтыя кнігі сёння, пераконваешся, што іх варта перачытаць і дарослым. І не толькі, каб яны нешта выбралі дзецям і ўнукам. А і каб самі дакрануліся да цяпла, святла, дабрыні, пяшчоты і спагады. Напісанае Тайцам — проста добрая літаратура. У тым ліку і створаная пасля Вялікай Айчыннай вайны аповесць «Пад гарой Гедыміна». Вось што на адным з інтэрнэт-парталаў напісала пра яе Ірына Цыпіна з Ізраіля: «Кнігу Якава Тайца мне падаравала мая бабуля, са словамі: «Ён з таго самага горада Вільня, дзе я нарадзілася і жыла да вайны, магчыма, мы былі знаёмыя...» Не, Якаў Тайц — са Смаргоні. Але быў ён і ў Вільні. Галоўнае, што ў многіх чытачоў складваецца ўражанне суладнасці, блізкасці з прачытаным, з самім пісьменнікам, узнікае давер да аўтара. Таму, відавочна, і «савецкія» творы Якава Тайца перавыдаюць цяпер, калі ўжо не ў модзе і слова «савецкі».

Той самы Юрый Якаўлеў, якога мы ўжо згадвалі, у 1970 годзе надрукаваў у калектыўным літаратуразнаўчым зборніку «Дзіцячая літаратура» артыкул пра Якава Тайца, дзе былі і такія словы: «Яго выратоўваў сардэчны кругагляд. Яго выратоўвалі ўдачы сяброў...» Так, шмат хто падкрэсліваў пасля смерці Якава Майсеевіча, што гэты знешне няўклюдны чалавек, досыць сціплы, умеў адкрывацца ў адказ на чужую шчырасць, чужую дабрыню. Умеў радавацца поспехам сваіх таварышаў-аднагодкаў. Шмат перакладаў класікаў, сучаснікаў з вялікай кагорты яўрэйскіх пісьменнікаў. У першую чаргу — Шолам-Алейхема, І. Кіпніса, Л. Квітко, І. Гордана... Стараўся выказаць падтрымку літаратурнай моладзі. Невыпадковым падаецца і тое, што ў асабістым фондзе пісьменніка ў Расійскім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца лісты Якаву Тайцу ад Анатоля Алексіна. Лісты датаваныя пачаткам 1950-х гг. Тады будучы славуты літаратар рабіў першыя крокі ў прафесіі. З Якавам Майсеевічам ліставаўся малады Сяргей Баруздзін. Ён, як вядома, таксама пачынаў як дзіцячы пісьменнік.

У архіве — і тэлеграмы-спачуванні ў сувязі са смерцю літаратара: ад Канстанціна Сіманава, Самуіла Маршака, Мікалая Ціханава, Канстанціна Федзіна, Сяргея Міхалкова, Карнея Чукоўскага... Пайшоў з жыцця наш зямляк 4 красавіка 1957 года. Ва ўзросце 52 гадоў... Жыць бы яшчэ і жыць! Працаваць і працаваць!..

Апошнім творам Якава Майсеевіча стаў цыкл навел «Нязгаснае святло». Пра ўласнае дзяцінства. А надрукаваныя гэтыя навелы былі пасля смерці літаратара — у 1958 годзе. Займальныя, сюжэтныя, яны напоўнены тонкім гумарам і дапаўняюць той вобраз пісьменніка, што склаўся з папярэдніх кніг...

Ёсць і загадкі, што вартыя ўвагі, асабліва ў кантэксце беларускіх старонак жыццяпісу Якава Тайца. У адной з крыніц мімаходзь гаворыцца, што Якаў Майсеевіч уваходзіў у склад Усебеларускага аб'яднання мастакоў. Ці так гэта на самай справе? І калі, у якія гады такая повязь з роднай Беларуссю мелася?.. Падставы на тое, канечне ж, былі самыя што ні ёсць поўныя. Якаў Майсеевіч і сам ілюстраваў уласныя кнігі, і працаваў як мастак для душы, для ўласнага самавыяўлення.

# «У краіне мар паднебнай далі...»

14 студзеня адзначалася 120 гадоў з дня нараджэння беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйло, творчасць якой вызначаецца своеасаблівай вобразнасцю, напеўнасцю і непасрэднасцю ў выяўленні думак і пачуццяў.

Інеса КРЫШТОП

К. Буйло распачала літаратурную дзейнасць у той час, калі працэсы адраджэння ахоплівалі ўсе сферы нацыянальнга быцця, калі беларуская літаратура пачала развівацца ў надзвычай паскораным тэмпе. Паэтэса дэбютавала вершамі ў газеце «Наша Ніва» ў 1909 г. пад імем брата Эдуарда. Пад уласным К. Буйло пачала друкавацца з 1910 г., а ў 1914 г. у друкарні Марціна Кухты паэтка выдала сваю дэбютную кнігу «Курганная кветка», якую ўклаў і адрэдагаваў Янка Купала.

На жаль, пасля «нашаніўскага» перыяду К. Буйло замоўкла на доўгія гады. Новы перыяд у яе творчасці пачаўся ў Вялікую Айчынную вайну, а пасля вайны з'явіліся паэтычныя зборнікі «Світанне» (1950), «На адноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965), «Роднаму краю» (1973). Былі кнігі вершаў для дзяцей: «Юрачка» (1957), «У бляску зор» (1968), «Вясной» (1984). Многія творы паэтэсы пакладзены на музыку, а асабліва шырокую вядомасць набыў верш «Люблю», які стаў народнай песняй.



*Канстанцыя Буйло. Аўтар — Анатоль Крывенка. 1994 г.*

Ужо ў «Курганнай кветцы» яскрава выявіўся яе паэтычны талент і жыццёвы аптымізм, што, у сваю чаргу, было адзначана вядомымі сучаснікамі паэткі М. Багдановічам, М. Гарэцкім, А. Навіной і іншымі. Вершы К. Буйло сведчаць, што яна паводле складу свайго таленту перш за ўсе лірык, для якога паказальна наяўнасць няўлоўнага пераходу ад аднаго пачуцця да другога, адлюстраванне знешняга свету праз прызму асабістых перажыванняў і настрояў. У якасці галоўных матываў творчасці паэтэсы можна вызначыць глыбока прачутыя грамадзянска-патрыятычныя матывы: любоў да роднага краю, вера ў чалавека і будучыню свайго народа, заклік да працы і свабоды, абуджэнне свядомасці, імкненне да змен і душэўнага абнаўлення.

Нават у пейзажнай лірыцы К. Буйло прэваліруе выяўленне патрыятычных пачуццяў і інтымных перажыванняў. Краса роднага краю натхняла паэтэсу і адгукалася ў яе душы шчырымі радкамі: «Дзе Вілья ў Нёман ліе свае хвалі, // ...Купаецца месяц ў вод чыстым крыштале, // Яны з ціхім шумам плывуць усё далей...» Паэтэса чулліва ўспрымала гукі, фарбы, стан роднай прыроды, быццам сузірала з вышыні птушынага палёту: «Як добра, лёгка мне! // Дзе я? // Чырвонасць зор, блакіт паднебнай далі, // І сонца ясны бляск і празрыстасць крышталяў...» Асабліва любоўна і натхнёна апісвае К. Буйло ў вершы «Люблю...» край, дзе яна нарадзілася і вырасла, дзе ўсё ёй знаёмае і дарагое, дзе поры года, ідучы адна за адной, утвараюць непаўторнае чарадзейнае кола яркіх уражанняў і малюнкаў, якія запомніліся на ўсё жыццё.

Паэтызацыя прыроды — вынік суб'ектыўнага ўспрымання і перажывання навакольных з'яў, устанаўлення тонкіх, ледзь адчувальных сувязей паміж імі і аўтарам. Псіхалагічны паралелізм і разгорнутыя параўнанні, якія шырока выкарыстоўваюцца паэтэсай, дапамагаюць праз з'явы прыроды глыбей адлюстраваць як уласныя думкі і пачуцці, так і агульначалавечыя каштоўнасці.

Творчасць паэтэсы можна назваць нацыянальна самабытнай. Героямі вершаў К. Буйло з'яўляюцца русалкі, вядзьмаркі, вадзянік, лесавік, плачка. Уплыў народнай творчасці, усведамленне спрадвечных законаў чалавечага жыцця асабліва адчувальна ў вершах баладнага тыпу «Рута» і «Курган». Аднак фальклорныя матывы, якія выкарыстоўваюцца паэткай, не зводзяцца да простага перайманне ці стылізацыі, а паказваюць глыбокае разуменне аўтарам сутнасці нацыянальнага фальклору, яго здольнасць «аднавіць» паэзію і жывіць літаратуру.

У інтымнай лірыцы Канстанцыі Буйло няма паэтызацыі страсці, ёсць толькі сненне, чаканне, душэўнае хваляванне і памкненне насустрач каханаму. У той жа час ёй уласціва драматызацыя ўзаемаадносін паміж лірычнымі героямі па прычыне нейкага фатальнага непаразумення, якое перашкаджае выяўленню іх пачуццяў («Не магу», «Не глядзі...», «Адна»). Нягледзячы на тое, што каханне ўсведамляецца як найвялікшая крыніца творчасці, любоўная лірыка прасякнута і матывамі адзіноты, тугі і страчанага кахання.

Песеннасць — адна з паказальных рыс паэтычных твораў К. Буйло. Ды і сама песня ў К. Буйло — не толькі жанр, але і сімвал мастацтва, творчасці. Па сваёй тэматыцы, матывах, танальнасці, здольнасці ўжывацца ў самыя розныя з'явы жыцця і адчуваць яго рытмы і галасы паэтычная творчасць К. Буйло вельмі разнастайная і займае адметнае месца ў айчыннай літаратуры.

# Паэзія

Расціслаў БЕНЗЯРУК



## У Ялту, да Багдановіча

*Як далёка прытулак знайшоў,*
*Але й тут Беларусь, мусіць, сніцца?*
*Я прыйшоў, каб табе пакланіцца,*
*Са спазненнем на споведзь прыйшоў.*

*Я прынёс прывітанне здалёк —*
*Ад зямлі, тваім вершам апетай,*
*Ад палёў, у якіх кожным летам*
*Зацвітае ў жытах васілёк.*

*Я стаю і маўчу. Цішыня.*
*Ці ж прароцтва, Паэт, не збываецца:*
*«Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня?»*

## Пайшла ў завею

Памяці Ніны Мацяш

*Час быў роспачны, і голас*
*Набрыняў радкамі:*
*— Лёс мой,*
*Лёс мой — цяжкі колас,*
*Часам — цяжкі камень...*
*Ды словы ласкі і любві*
*Прыйшлі з-за небакраю:*
*— Шчаслівай долю назаві!..*

*— А я і называю.*
*Хаця суровая ралля,*
*Кажу, адкінуўшы турботы:*
*«Не адпускай мяне, работа, —*
*Твайго палону прагну я...»*
*Жніва паэма і надзея*
*Ды пространі кахання.*
*Жылося добра між людзей*
*Увечары і ўранні.*
*Спявала шчыра ў родным краі*
*Пра шчасце і бяду:*
*«Пакуты знаю,*
*Боязні не знаю.*
*Іду...»*

*...Калі ж настаў расстання час,*
*З трывогай і надзеяй*
*Сабрала Ніна разам нас —*
*Сама ж*
*пайшла*
*ў завею.*

## Пінская Мадонна

*Яна малілася ў касцёле:*
*Пагляд — лагодна і адчай.*
*Яе, у светлым арэоле,*
*Мастак убачыў між пінчан.*

*Такая вабная: няможна*
*Вачэй ад твару адарваць!*
*Ён папрасіў: «Дай сілы, Божа,*
*З яе Мадонну напісаць!..»*

*Яму Гасподзь паслаў удачу.*
*Мастак, адольваючы страх,*
*Пісаў зямную — сам жа бачыў*
*Марыю з Дзіцем на руках.*

*...У тым касцёле ясным ранкам*
*Я, знерухомеўшы, стаяў:*
*«Аблічча святасці пінчанкі,*
*Бо Ромер* так абагаўляў!..»*

*А. Ромер — жывапісец XIX стагоддзя, аўтар абраза «Найсвяцейшая Дзева».

* * *

*Як човен выплывае з чаратоў,*
*Так месяц выбіраецца з-за хмары.*
*Нам радасна і гаварыць, і марыць*
*Аб нашым шчасці на мільён гадоў.*

*У нас усё з табой, здаецца, ёсць:*
*І праца ў школе, і людзей прызнанне,*
*І жартаўліва-шчырае каханне,*
*І гэтая навечна маладосць.*

*Куды ж ад нас юнацтва паплыло?*
*Прыйшлі ўзамен разважлівасць*
*і сталасць,*
*А за вуглом цікуе пільна старасць...*
*Дзе маладое згублена вясло?!*

*Прызнаюся: мне хочацца зноў*
*З табою марыць пра жыццё і вечнасць,*
*Каб месяц, як у той далёкі вечар,*
*З-за хмары плыў, бы лодка з чаратоў.*

## Ноччу снег пасыпаў...

*Ноччу снег пасыпаў, лёгкі і пушысты,*
*Пабяліў ваколле, асвяжыў прастор.*
*Колер лебядзіны, светла-серабрысты,*
*З першым промнем зззяе водбліскамі зор.*

*Ранкам усміхнецца залатое сонца,*
*Вольна на нябёсы выйдзе пагуляць,*
*Яркім дыяментам зазірне ў аконцы —*
*І з дзівосным бляскам ажыве зямля.*

*Колькі светлых думак у бязмежжы мілым!*
*У трывозе сэрца знойдзе тут спачын.*
*Белізна і свежасць нам прыбавяць сілы,*
*Пазаве-пакліча раптам далячынь.*

*Эх, надзець бы лыжы ды падацца ў поле!*
*Шоргатам парушыць снега цішыню,*
*Галасістым смехам абудзіць прыволле*
*І праклaсці першым новую лыжню!..*



Фота Кастуся Дробава

Вольга НОРЫНА



* * *

*Шчасце...*
*Адзвінела і сышло,*
*Ды не сцьмелі фарбы ў дымцы шызай.*
*Я не плачу! Дождж заплакаў шыбы,*
*Проста я глядзела так, праз шкло.*

## Паэзія

*Разумею, паэзія — гэта не слава,*
*Нашы дні мітуснёю забіты да краю.*
*Сантыменты і сум —*
*непатрэбная справа.*
*Што ж нас разам, скажыце,*
*сягоння збірае?*

*Падабаюцца вам, пэўна,*
*святаў абновы,*
*Лісце клёнаў вясной*
*і ў асеннім пажары,*
*І ахвотна купляюцца душы на слова,*
*Асабліва —*
*пад музыку спеўнай гітары.*

*Я хацела б, сябры,*
*каб у веку няпростым*
*Хвалявалі радкі, як святое прычасце.*
*Дык давайце руку,*
*і па горадзе пройдзем,*
*А таксама па лёсе маім і па часе.*

## Дажджлівы дзень. Гродна

*Касцёлы, касцёлы... Сямнаццаты век.*
*На шэрых прыступках —*
*Гасподзь? Чалавек?*
*Пад крыжам каменным,*
*ад тлуму ўбаку,*
*Ускінуў у шэрае неба руку.*

*Пануе над горадам шэрая ціш.*
*І кожнаму цісне на плечы свой крыж.*
*Да Бога на споведзь прыходзім часцей,*
*Ды крыж не пушынка —*
*не дасць узляцець,*
*Не дасць нам забыць,*
*як у гэты вось дождж,*
*Што мы і без крыжа —*
*Пад крыжам усё ж.*

## Пакуль цвіце на свеце бэз

*Мінулае здаецца сном.*
*Ды — твой званок. І чую зноўку,*
*Як голуб майскі за акном*
*Буркуе, цешачы сяброўку.*

*І бачу я: наш бэз якраз*
*Расцвіў у дворыку прыгожа.*
*Трамвай звініць, як быццам нас*
*Ён запрашае ў падарожжа.*

*Прадвызначана ўсё даўно!*
*Не выпадкова ў нашым лёсе*
*І ласкі хмельнае віно,*
*І засмучэння ветрык лёгкі,*

*І развітальны паланэз,*
*І згадак сонечныя промні...*
*Пакуль цвіце на свеце бэз,*
*Мы сэрцаў роднасць будзем помніць.*

* * *

*Яшчэ не позна ўсё вярнуць.*
*Ты — не чужы. Чаму ж маўчым?*
*Я словы, што хачу пачуць,*
*Агучу голасам тваім.*

*Прыдумаю дарогі даль*
*І долю на дваіх — адну,*
*Каб стаць шчасліваю амаль,*
*Каб на плячы тваім заснуць.*

*Я да цябе ўсю ноч лячу,*
*Пачуццяў вечнасць — у душы.*
*Баюся слоў. І так хачу,*
*Каб іх сказаў ты сам...*
*Скажы!*

**Пераклад з рускай Міколы Маляўкі**

Іна ФРАЛОВА



## Зямное шчасце

*Аснежанае чысцінёй бяроз*
*Па расплясканай чырвані рабінавай,*
*Зямное шчасце ў мой жаночы лёс*
*Ідзе нясмела ў хустачцы сацінавай.*

*Неглядзячы на восень — басаног*
*У незайздросны лёс святой пакутніцай*
*З такой пакорай крочыць, што і дождж,*
*Замілаваны, ў небе замарудзіцца.*

* * *

*Туманамі захутаны дамы, —*
*Як на гравюры ў старадаўняй кнізе.*
*Самотнік-дождж збівае у тамы*
*Пажоўклую лістоту на Нямізе.*

*І чалавечай постаці абрыс,*
*На веці вечныя атручаны бяссоннем,*
*Па аўтарскай задуме не статыст, —*
*Паэт і Бог — на часавым улонні.*

*А заўтра нехта, як сягоння ты,*
*Хвіліны золкіх раніц параўнае*
*І ў кнізе лёсаў мокрыя лісты*
*Старонку за старонкай пагартае.*

* * *

*Замовы шапталі аршанскія сосны,*
*Калі чараваў над дзяўчынкай Дняпро.*
*У лёс заплятаў ён шыпкоўскія вёсны,*
*Абсяг мацярынства, Паэта пяро.*
*Ты ўсё прыняла на худзенькія плечы:*
*Адказнасць і мудрасць, спавітую ў зоўль.*
*Што ж я гавару?.. Усё, бадай, недарэчы...*
*Зноў блытаю шчасце зямное і боль.*
*Зляцелі гады — белых птушак чародка —*
*І твары змянілі не раз гарады,*
*А ты ўсё сакральных дуброў вайдэлотка,*
*Што спеляць у шатах сваіх жалуды.*
*А ты ўсё такая ж, і вечарам росным*
*Бязлітасны сум выядае нутро*
*Аб тым, што шапталі аршанскія сосны,*
*Аб тым, што маўчаў сіваплынны Дняпро.*

* * *

*Я не помню, калі*
*Зразумела, што сэрцам твая.*
*Можа, як зацвілі танкаствольныя вішань сады,*
*Мо мяне абудзіў апантаны любоўю жаўрук,*
*Ці зязюля, што лічыць гады,*
*Ці той колас, што лашчыцца рук?!*
*Я не помню, калі...*
*Стала роднаю гэта зямля,*
*Можа, як матылі бясклапотна*
*расквечвалі май?!*
*Ці то ўвосень было, калі енчыў у печы смаляк?!*
*Сенажаць падказала — дзе рай?..*
*Мне не ўспомніць той час аніяк.*
*Я не помню, калі*
*Ап'янела ад кменных вятроў,*
*Чабарамі азораных ветлых сцяжынак-дарог,*
*Я не помню, калі*
*Зразумела цану гэтых слоў.*
*Зразумела душой, зразумела усё, далібог.*

* * *

*У цябе, родны край, закаханая*
*З першых нашых далёкіх сустрэч.*
*Ты і боль мой, і радасць жаданая,*
*І высокая мараў далеч!*

*Мой спакой, што пад белымі крыламі,*
*Зноў трывожыш штораз па вясне.*
*Незабыўнымі згадкамі мілымі*
*Гэты сум маё сэрца кране.*

*Зазірнеш белапенным бэзам,*
*Як у вокны, у чыстыя сны —*
*І ўзгадаю зноў лес, падпярэзаны*
*Ціхай беллю, мой лес верасны.*

*Узгадаю сцяжыначку вабную,*
*Што за вёскай бяжыць праз жніво,*
*І бусла, што часінай спагаднаю*
*Станавіўся са мной на крыло.*



# Ігар СІДАРУК

## *Лірычныя абразкі*

### І смак вуснаў спакусных — не адгадаць...

Мне так хацелася ўведаць, разгадаць, назаўсёды запомніць смак тваіх вуснаў. А магчыма, нават не ўведаць, а падабраць той самы жаданы і дзіўны смак, адчуваючы які, я мог ведаць, што ён толькі твой і нічый болей.

Таму абрыкосавай раніцай мы пілі каву з цынамонам, і няўлоўная гаркавасць спакушала і прымушала адсоўваць філіжанкі прэч, толькі здавалася, што гэтым смакам я магу наталіцца крыху іначай.

Тады прапаноўваў табе нетаропка расціснуць вінаградзінку, якая ўтульна знаходзіла месца паміж нашымі вуснамі, аднак рабіла іх надта салодкімі, таму крыху ненатуральнымі здаваліся твае.

Ягады клубніц іх прыемна халодзілі і асвяжалі, але мне болей хацелася цалаваць жывую плоць, а не свежасць ранішніх ягад.

Кропля марозіва дзіўным чынам твае вусны ўжо не халодзіла, а надавала прысмак мядова-малочнай спакусы — а значыць, я канчаткова забываўся на вочы твае і вусны, няўмольна накіроўваючыся сваім паглядам туды, дзе іншыя месцейкі твайго цела спакушалі глыбока, вярэдліва, неадрыўна.

Калі ж я гарэзным нахабнікам злавіў твае вусны сваімі і адстараніўся толькі ў той момант, калі ты, пратэстуючы, усё ж адкусіла ад кавалачка кіслай цытрыны — твае вусны мелі асаблівы далікатна—ўзбуджальны смак, але флюіды пратэсту крыху насцярожвалі і аддалялі...

Сакавітая плоць кавуна, безумоўна, рабіла іх бязмежна вільготнымі, больш напятымі і нават крыху разбэшчанымі, скрылёчак ківі пакідаў адценні няўлоўнай экзотыкі, а ягадка агрэсту, наадварот, — простай адкрытасці і даверу.

А потым... Калі смакі і пахі перамяшаліся, калі зрабіліся татальнымі і амаль не адрознымі, калі раптам нічога не засталося, акрамя твайго цела, і шчырасці, і правальнай, бясконцай бездані — на самым-самым глыбокім, недасягальным дне гэтай бездані я раптам адчуў — сапраўдны смак тваіх вуснаў. На адзінае, няўлоўнае імгненне, якое памяць захавала назаўсёды і цяпер не хоча яго адкрываць нават мне.

### І толькі смешнае віно...

Мы п'ём яго ў машыне. Кроплі гарацць салодкім бурштынам на тваіх вуснах. Я знаходжу іх сваімі, і кожны дотык да іх ператварае маё мужчынскае трыванне ў татальную навальніцу эратычных мрояў, што абрынуцца праз хвілю на нас...

Толькі абрынуцца вадаспадам і трыумфуюць чарговыя хвіліны, але тваіх вуснаў па-ранейшаму болей кранаюцца вінныя кроплі, чым я. І мне ад таго крыху вусцішна, а болей — весела. Паколькі і ты называеш гэтае насычанае летнім сонцам віно далікатным і смешным, ласкавым і крыху гарэзлівым, непаўторным і сексуальным.

І я ўжо расшпільваю твае верхнія гузічкі вуснамі, а ты звонка смяешся і адштурхоўваеш мяне, параненйшаму гуляючы з бутэлькаю і келіхам, толькі зусім не са мной, не са мной.

Але які ж я дурны! Пры чым тут віно і келіх? Пры чым спакушальнае сонца вінаграднага жніўня і спеўны, вільготны бляск тонкага шкла ў палоне тваіх смарагдавых пазногцікаў? Безумоўна, усё гэта важна. Калі не звяртаць увагі. Але нашмат важней тое, што ты ўсё-такі адштурхоўваеш мяне і зноў хуценька зашпільваеш свае гузічкі, хоць я і паспяваю павітацца паглядам з пругкімі соўчыкамі, якія на імгненне вітаюць волю, вызваляючыся са свайго затачэння. Нашмат важней тое, што твае вочы смяюцца гэтак жа нахабна і шчыра, як маленькае дзіцятка смяецца з дарослага, калі той не разумее яго бяскрыўдных жартаў. А яшчэ вельмі важна, што адразу шукаеш сваімі вуснамі мае вусны і цаляеш пацалаваць так, каб яны пачыналі лавіць паветра якраз над самым верхнім з тых гузічкаў.



Урэшце, хіба ўсё так важна? У той самы момант, калі рукі знаходзяць твае рукі, калі пальцы даюць нырца пад рухомую роўнядзь празрыстай тканіны, намацваючы твае вострыя, вярэдна аголеныя соўчыкі, калі падушачкі пальцаў ператвараюцца ва ўладныя інструменты, што пакідаюць на тваім пругкім, саланаватым целе россыпы дотыкаў, бязмежжа лакальных выспачак узгарання?

І я, рызыкуючы пазбавіцца апошняга вясёлага розуму, аднachасова гашу і распальваю тыя выспы агню, хачу, каб ты лавіла, прасіла, прагнула прахалоды — той няўлоўнай, надзейнай, гаючай і беражлівай прахалоды, лішак якой жанчыны так падобраму не даруюць мужчынам і апошняй кропляй якой застаецца часцяком адно толькі смешнае віно.

### Памяць, вецер і цёплы кавалачак сонца

Дзіўная ўласцівасць: усё забываць! Ты забываеш расчоску і просіш маю, а потым няспешна расчэсваеш свае валасы, нібы майскі дождж сярэбранымі струменямі расчэсвае зялёныя бярозавыя вадаспады лістоты. Ты забываеш люстэрка і просіш правесці цябе ў ванны пакой — нібыта сама не ведаеш туды дарогі; і ўжо тут, сонечна ўсміхнуўшыся, цягнешся на дыбачках да маёй шыі, каб пакінуць на ёй такі ж цёплы кавалачак сонца. Ты забываеш нават зубную шчотку! І я, даўно ведаючы на смак вільготны твой язычок, «прэзентую» табе сваю, ведаючы таксама, што потым яе будзе немагчыма знайсці...

Як даўно ведаю, што ты памятаеш усё крыху іначай. Што гэта значыць? Толькі тое, што калі наша сустрэча дагарыць і знікне ў вечаровай смузе, — ты яшчэ доўга будзеш бачыць скрозь шкло звычайнага свайго акна плаўкія, даўкія свечкі, і тое, як мы, пераплятаючыся пальцамі, здымаем з іх цёплы нагар. Яшчэ тое, што свае белыя, а мае рабаценькія трусікі на падлозе ты запомніш трапяткім матыльковым малюнкам, які тут натхнёна пакінуў незапрошаны і нябачны мастак. І тое, што прыцягальная гарачнасць целаў і здрадлівы рып ужо не новага ложка для цябе ператворацца ва ўрачысты і лёгкі подых абветранага змяркання, якое непазбежна заўсёды, чакаеш яго ці не.

Што памятаю я? Табе расказаць? Ты гэтага хочаш? Ты і праўда хочаш пачуць, чаму я ўсміхаюся, не, нават ціха смяюся, калі так прыгожа, так адкрыта і з такім захапленнем — распранаю цябе?! Я, вядома, магу... Але хіба можна тлумачыць? Хіба можна раскласці на дробнае нашы неадрыўныя, злітыя адзін у адзін пагляды, мае пяшчотнальвіныя дотыкі да тваіх ужо крыху загарэлых грудзей і нашы абдымкі, у якіх так фантастычна і так далікатна раскрываецца ўрэшце спраўджаных жаданні і адначасна хаваецца ўвесь свет?!

А ў тым свеце хаваешся ты, хаваемся мы разам. У тым свеце ёсць чалавек з дзіўнай уласцівасцю — усё забываць. Забываць свой «мабільнік» або сумачку пасля спаткання... Аднак праз невядомую колькасць дзён, тыдняў і месяцаў моцна помніць, як пахне дагарэлая свечка падчас майскага змяркання, і тую хвіліну, калі застаўся на маёй шыі цёплы кавалачак сонца.

### На кожнай падушачцы пальцаў

— Калі ты дазволіш сябе пацалаваць? — спытала ты і паглядзела на мяне надта сур'ёзна. Я нават крыху разгубіўся, паколькі ведаў цябе зусім іншай. Лёгкая, крыху наіўная і бязмежна эратычная ўсмешка гэтым разам не гуляла на тваіх вуснах.

— Звычайна такое пытанне задаюць мужчыны, — не выказваючы здзіўлення, адказаў.

— Ты ж ведаеш, што я незвычайная жанчына.

— Ведаю. Таму і не чакай ад мяне звычайнага адказу.

І ты не чакала.

Толькі й я ў той дзень не дачакаўся тваіх пацалункаў.

У той дзень было іншае. Ты сядзела насупраць, кавярню працінала жыццесцвярджальнае, рухомае, гарэзлівасонечнае святло, а твае тонкія пальчыкі раз-пораз, нібы незнарок, краналіся маёй скуры. Краналіся маёй далоні, якая па-мужчынску спакойна ляжала на стале, хоць я міжволі параўнаў яе з коткаю, што затоена чакае, калі міма прашмыгне бясклапотная мышка. І гэткімі мышанятамі былі сёння твае пальчыкі.

Урэшце надарыўся міг, калі я такі не ўтрываў і захапіў іх у свой палон. Ты зноў зірнула мне ў вочы. Спачатку сур'ёзна, амаль як тады, калі пыталася пра пацалункі. А потым твой просты пагляд ператварыўся раптам у іскрыстае, безагляднае і ў той жа час крыху гуллівае запрашэнне ў яшчэ не вядомую казку. Казку, падарожжа, спасціжэнне. Таго, што можа здарыцца, калі раптам я захачу на кожнай падушачцы тваіх пальцаў пакінуць пячатку мужчынскай вулканічнай пяшчоты. Таго, што будзе з намі, калі ты захочаш заглыбіцца, а магчыма, і прапасці ў той пяшчоце, спалучаючы яе са сваёй жаноцкай цнатлівa-разбэшчанай весялосцю. Таго, што так дзіўна супалі нашы нявыказаныя жаданні: правалiцца ў бездань недаравальна-адкрытай інтымнасці, якая вільготна падрыгвае на краёчках тваіх і маіх вачэй з першага дня знаёмства.

І ў гэта імгненне, у гэты кавалачак нашага нявыказанага жыцця, калі пагляд перацякаў у пагляд, твае пальцы знаходзілі, запрашалі на беззаганны, жарсцлівы танец мае пальцы, а нашы ногі пад столікам так рэальна, так адчувальна перадавалі ад цела да цела ўзбуджальную электрычнасць, якая, здаецца, вось-вось спапяліць і цябе, і маё адзенне, ты раптам павольна пацягнула маю руку. Пацягнула ў адвечна загадкавае, амаль нерэальнае і затоена-невядомае, адмаўляючы ўсялякія пярэчанні.

...З таго дня мінула шмат дзён. Але і сёння, як і ўчора, як і ў той красавіцкі правільны дзень на падушачках маіх пальцаў — крохкія агменькі нашых уяўных, так і не пакінутых пацалункаў, мёд пахнотнабурлівых начэй, кроплі ніколі не спасцігальнае да канца таемнасці.

### На пачатку дарогі, якая завершана

І зноў паўсюль ноч, снежная, зімняя, недаравальная ноч.

Недзе далёка — ты яшчэ не спіш. Ты сядзіш ля акна, памешваючы лыжачкай сваю зялёную гарбату, а я пераадольваю чарговую сотню заснежаных кіламетраў.

Ці чакаеш ты мяне? Ці патрэбны гэты шлях мне самому?

Іншым разам мы выбіраем дарогу, якая ўжо без патрэбы, якая даўно завершана. Пройдзена, скончана; і вяртанне да пачатку не мае ніякага сэнсу.

Толькі... Ці не занадта наперад бяжыць маё ўяўленне? Ты сядзіш ля акна, снег таропка шаргоча па шкле, і кубак з гарачай гарбатай грэе не толькі пальцы. Адсунь яго, мілая...

Так, адсунь, не здзіўляйся: я спяшаюся разам са снегам. Часта няспешная сцішанасць прыязджала разам са мной; ты чакала, а я маўчаў, я толькі ўсміхаўся. Мне здавалася: яшчэ не час. Крануцца вуснамі тваіх соўчыкаў — і нешта шаптаць... Аддаца ласкам твайго жаноцкага, пяшчотнага твайго цела — і нешта прамовіць. Згарэць разам з табою — і ціха сказаць: «Каханая!..»

Разумею цяпер: дарма! Дарма я маўчаў, дарма толькі ўсміхаўся. Словы, не сказанае ў свой час, — не прамовіцца. Вось чаму прыспешваю снег, прыспешваю вечар, прыспешваю кожны кіламетровы слуп і дрэвы.

Вы скажаце: зусім не магчыма, зусім не рэальна такое?..

Усё магчыма, усё рэальна. Калі ты так упарта сядзіш ля вакна, і кубачак твой не стыне, і кожны твой палец, кожная кропка цела — памятае маё маўчанне.

А я і блізка яшчэ не думаю, што сёння выбраў дарогу, якая даўно завершана.

# «Хочаш быць беларусам — пішы па-беларуску»

«Гонар маю» — так называецца кніга ўспамінаў пісьменніка Івана Стадольніка, якая рыхтуецца да друку ў адным з мінскіх выдавецтваў. Урывак з кнігі аўтар прапануе чытачам «ЛіМа».



*Навум Гальпяровіч (другі справа) у Полацку на пасяджэнні літаб'яднання «Наддзвінне».*

**Іван СТАДОЛЬНІК**

Скажу шчыра: не мог сабе ўявіць у час нашага першага знаёмства з Навумам Гальпяровічам, што ён стане не толькі вядомым пісьменнікам і журналістам, грамадскім дзеячам, кіраўніком радыё, але і адным з самых актыўных і адданых руплівцаў беларускага слова.

У той час, калі я прыйшоў працаваць у полацкую аб'яднаную газету «Сцяг камунізму» адказным сакратарам, Навум быў карэктарам. Дзевятнаццацігадовы, з кучаравай шавялюрай, амаль хлапчук, ён па даручэнні рэдактара займаўся літаб'яднаннем «Наддзвінне».

Навум пісаў вершы на рускай мове, яны публікаваліся на старонках газеты і не надта адрозніваліся, на мой погляд, паводле ўзроўню ад многіх іншых, што стваралі колішнія наддзвінцы. Хіба больш было ў іх вобразнасці. Ды мне здавалася, што вершам Гальпяровіча не хапала адчування навакольнага жыцця, шмат было літаратуршчыны.

Праз некаторы час кіраўніком літаб'яднання абралі мяне, Навум стаў маім намеснікам, і ўсе пасяджэнні «Наддзвіння» мы праводзілі разам.

Працуючы карэктарам, Гальпяровіч актыўна пісаў заметкі ў газету, паступіў на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі, дзе я ўжо вучыўся на трэцім курсе. Так што нас аб'ядноўвала многае, і, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, мы пасябравалі. Увогуле, у тыя гады ў рэдакцыі стварылася сяброўская кампанія, куды акрамя нас з Навумам уваходзілі фотамастак Канстанцін Жарнасек і намеснік рэдактара, вельмі эрудзіраваны і проста цудоўны чалавек Герман Кірылаў.

Мы станавіліся патрыётамі Бацькаўшчыны, роднай мовы, спасцігалі невядомыя старонкі нашай гісторыі. Я заўсёды гаварыў свайму сябру адкрыта і шчыра пра ўсё, што думаю. І ён — таксама. Таму лічу яго сапраўдным беларусам, хоць ён ніколі не ўтойваў сваёй нацыянальнасці і не адмаўляўся ад яе. Маці яго, Фаіна Навумаўна, усё жыццё адпрацавала ў саўгасе «Полацкі», бацька, Якаў Паўлавіч, — з рабочых людзей, ветэран і інвалід Вялікай Айчыннай, быў простым вартаўніком, яны былі вельмі добрымі і паважанымі людзьмі. Часам мне даводзілася бываць у Навумавай хаце, браць чарку з яго бацькам, слухаць франтавыя ўспаміны Якава Паўлавіча.

Аднойчы я сказаў Навуму:

— Ты працуеш у беларускай газеце, размаўляеш з намі пабеларуску, а вершы пішаш на рускай мове. Чаму?

— Дык я ж не беларус, — адказаў Навум. — І потым, мне на рускай пісаць лягчэй.

— Хочаш быць беларусам — пішы па-беларуску, — адказаў я. — А ўвогуле я з нацыянальнасцей я прызнаю толькі дзве: нацыя харошых і нацыя дрэнных людзей.

Неўзабаве Навум Гальпяровіч стаў пісаць вершы на беларускай мове. І, на мой погляд, у іх з'явілася тое, чаго не хапала ў ранейшых, — шчырасць, раскаванасць, адчуванне роднай зямлі.

Мы часта разам выступалі ў школах. Дарэчы, Навум завочна закончыў Віцебскі педінстытут. Чыталі вершы на прадпрыемствах, на розных вечарынах, ездзілі выступаць на абласное тэлебачанне, куды даволі часта запрашаў супрацоўнік гэтай тэлестудыі, паэт Давід Сімановіч. Бывалі на семінарах творчай моладзі, якія праводзіў Віцебскі абкам камсамола. Навум стаў літработнікам нашай газеты, займаўся пытаннямі культуры. Часта выязджалі ў сумесныя рэдакцыйныя камандзіроўкі.

Падчас такіх паездак было шмат розных вясёлых прыгод, сяброўскіх розыгрышаў. Аднойчы, вяртаючыся з Мінска, мы разам разыгралі цэлую сцэнку перад суседзямі па купэ — двума афіцэрамі — пра маё сватаўство ў вобразе закаранелага сялянскага вахлака да гарадской гераіні тадышняй сучаснасці — маладой прыгажуні.

У Навума і тады было нямала зайздроснікаў. Не падабалася яго актыўнасць, уменне выступаць, яго пэўная самастойнасць. І ў Саюз пісьменнікаў Навум уступіў пазнавата. Я ўжо даўно быў прыняты ў гэту арганізацыю, жыў у Мінску, працаваў у «Вожыку», а ён усё хадзіў у пачаткоўцах, працаваў рэдактарам заводскага радыё ў Наваполацку, куды сышоў са «Сцяга камунізму»...

Ды ў васьмідзясятыя гады лёс вывеў яго на Беларускае радыё. І неўзабаве Навум Гальпяровіч стаў адным з самых актыўных уласных карэспандэнтаў, яго голас амаль кожны дзень гучаў у эфіры. Я шчыра радаваўся за сябра.

Але дзейсная няўрымслівая натура Навума праявілася яшчэ больш, калі ён пераехаў у сталіцу. І тут мы зноў сустрэліся ў адным рэдакцыйным калектыве, дзе Навум Гальпяровіч заняў маё ранейшае месца, стаў працаваць намеснікам галоўнага рэдактара — адказным сакратаром у родным мне часопісе «Вожык».

У Мінску яго лепшыя якасці пісьменніка, журналіста, арганізатара раскрыліся напоўніцу. І ў Саюзе пісьменнікаў, дзе нейкі час ён працаваў у апараце сакратаром, і на радыё, куды ён вярнуўся, каб узначаліць міжнароднае вяшчанне.

Мне вельмі ўсцешна, што двое дзяцей Навума і яго мілай жоначкі выраслі і сталі добрымі людзьмі. Сын Максім закончыў гістарычны факультэт БДУ, аспірантуру, цяпер галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса», дачушка-прыгажунька Волечка, як і бацька, — радыёжурналістка. Нейкі час працавала на радыё, цяпер — уласны карэспандэнт у Кітайскай Народнай Рэспубліцы.

Я ўсцешаны, што мой сябра ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. І зусім нядаўна даведаўся, што Навум стаў ганаровым грамадзянінам Наваполацка.

Думаю, што не толькі Полацк павінен ганарыцца такім творчым апантаным чалавекам, патрыётам Беларусі, як Навум Гальпяровіч, а і ўся наша краіна. Яго вершы, апавяданні, журналісцкая праца, грамадская дзейнасць (цяжка назваць пералічыць усе яго грамадскія «нагрузкі») — наш нацыянальны здабытак. А ён — сапраўдны беларус.

# З дзённікавых запісаў

Дзіўная сёння сітуацыя ў літаратуры, прынамсі, у паэзіі. Пры яўным падзенні цікавасці людзей да кнігі ўвогуле, а да паэтычнай тым больш, колькасць асоб, якія жадаюць ствараць паэтычныя радкі, няўхільна расце. Вершы, як ім здаецца, складаюць пенсіянеры, фізікі і хімікі, хатнія гаспадыні, пажарныя і вахцёры... Многія з іх нават выдаюць кніжкі, балазе гэта сёння пры наяўнасці грошай ці спонсараў нескладана.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Дзе тут ужо да славутых радкоў Пастарнака:

*О, если б знал, что так бывает,*
*Когда пускался на дебют,*
*Что строчки с кровью убивают,*
*Нахлынут горлом и убьют...*

Сёння многія аўтары, як ім здаецца, вершаў штурмуюць рэдакцыі, патрабуюць прэмій і ўзнагарод, пералічваючы свае шматлікія заслугі, і пішуць скаргі ў розныя інстанцыі, калі ім адмаўляюць у публікацыі. Заслугі ў іх сапраўды ёсць, але дасягнуты яны ў іншых галінах дзейнасці, якія да сапраўднай паэзіі ніякага дачынення не маюць, бо, як вядома з гісторыі літаратуры, часам вельмі таленавітыя творцы не мелі ніякіх заслуг, акрамя вершаў, і не заўсёды нават паказвалі прыклад прыстойных паводзін у грамадстве. Што ж зробіш, талент — рэч рэдкая і загадкавая.

А між тым паэты значныя і сур'ёзныя пішуць сёння не так і шмат, пакутуючы ад многіх праблем, у тым ліку звязаных з сённяшнім станам грамадскай маралі, духоўнасці.

Дзе ж вы, уважлівыя і чулыя крытыкі, прынцыповыя рэдактары, сумленныя аматары літаратуры? Літаратуры, а не плыні ваяўнічай нахабнай графаманіі, якая захліснула старонкі часопісаў, кніг, інтэрнэту? Падумаў раптам, што і сам, грэшны, вінаваты, бо трываю, маўчу, не жадаючы лішніх клопатаў і праблем у адносінах з людзьмі, зноў жа скажу, з паважанымі і добрымі, але не пацалаванымі небам...

* * *

Літаратар, які піша пра харaство прыроды, пра каханне, пра любоў да блізкіх, вернасць, мову, Радзіму, робіць не менш важную справу для грамадства, чым яркі трыбун, функцыянер, арганізатар вытворчасці, настаўнік і доктар. Ён мае справу з душой, уласнай і людской. Узгадваючы сваё дзяцінства і маладосць, я зразумеў, што ўсе высокія маральныя запаветы я ўзяў з любімых кніжак. З іх жа я зразумеў, што такое подласць, здрада, ліхвярства. Але перш чым даверыць таямніцы сваёй душы чытачу, не грэх спытаць у самога сябе, чым яна напоўнена. І не баяцца быць такім, які ты ёсць на самой справе.

* * *

Можа, каго-небудзь раздражняе, што я так часта ў вершах і прозе згадваю свой родны Полацк, дзяцінства, сяброў... Кожны ж не менш любіць свае родныя мясціны. Але Полацк для мяне не проста родны горад. Я, напэўна, быў бы зусім іншым чалавекам, займаўся б зусім іншымі справамі, калі б не вежы Сафійскага сабора, якія я ўбачыў з самага нараджэння, не беленькая свечачка царквы Спаса, побач з якой я правёў сваё дзяцінства. Я, безумоўна, не адразу зразумеў гэта. Але сама атмасфера старажытнага горада, яго напоўненыя цішынёй спакоем вулачкі і завулкі спакваля ўваходзілі ў душу, выклікалі думкі пра сваё месца ў жыцці... Душы патрэбна была вера. І ў напоўненай бязвер'ем і атэізмам атмасферы майго дзяцінства і юнацтва такой верай станавіўся для мяне мой Полацк. З ім прыйшла беларуская мова, якая стала самай роднай, сябры, першае каханне.

І хоць я з юнацтва хацеў паехаць у вялікі свет, з Полацкам развітацца баяўся. З гадамі прыйшло разуменне, што ён заўсёды са мной. Гэта як у каханні: фізічная блізкасць — толькі частка яго.

Ён яшчэ не стаў такім, якім я хацеў бы яго бачыць. У ім яшчэ па-ранейшаму цеснавата чалавеку таленавітаму, творчаму, з вялікімі планамі і памкненнямі. Як і раней, з яго ў вялікі свет з'язджаюць будучыя артысты, вучоныя, мастакі, пісьменнікі, грамадскія дзеячы. Але я веру, што, як некалі і я, яны бяруць яго з сабой, нясуць у душы, як паходню. як веру.

Што б хто ні казаў, але мне пашанцавала, што лёсам выпала нарадзіцца ў маім Полацку.

* * *

Чамусьці страты апошніх гадоў так шчымліва мне нагадваюць пра незабыўнага Алеся Пісьмянкова. Не стала Валодзі Марука, які быў для Пісьмянка вельмі блізкім і дарагім чалавекам. Пасля смерці Алеся мы з Маруком, як асірацелыя дзеці, доўга не маглі змірыцца са стратай сябра. Пайшоў за ім і Валодзя. Нечакана, хоць здароўем быў вельмі слабы. А нядаўна я згадаў, як ужо без Алеся мы правялі цудоўны веснавы дзень у санаторыі «Сасновы бор», куды ездзілі ў госці да Віталя Гарановіча, паэта і настаўніка з Глыбокага. Гарановіч таксама быў з нашай кампаніі. Мы з Алесем хадзілі да яго ў госці, калі ён прыязджаў на курсы павышэння кваліфікацыі за два дні да Алесевай нечаканай смерці, меліся ў суботу павадзіць яго па горадзе, паказаць нашы ўлюбёныя мясціны... А да гэтага не раз былі ў яго ў гасцях у Глыбокім. Алесь быў грамадскім рэдактарам яго кнігі...



*Алесь Пісьмянкоў на рэчцы Ушачка.*

Віталь Рыгоравіч стварыў у Глыбокім сапраўды беларускую сярэднюю школу, і многія яго былыя вучні захавалі беларускасць у далейшым жыцці.

Не змог паехаць на яго пахаванне, бо не адразу дайшла да мяне журботная вестка.

А ў душы шчымяць боль і туга. Дзякуй Богу, яшчэ жывуць Алесевы сябры, з якімі мы праводзілі нашага Пісьмянка ў апошні зямны шлях. І хочацца маліцца, каб жа толькі яны не сыходзілі так рана, каб як мага даўжэй былі тут. Жывіце, хлопцы, калі ласка!

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

18 студзеня 2013 г.

*Унікальны праект*

# Сабраць, захаваць, паказаць

Пазнаёміць замежнікаў з мастацкай культурай нашай краіны можна рознымі шляхамі. Зладзіць экскурсію ў музей, доўга і падрабязна распавядаць пра мастацкія артэфакты і гісторыю іх знаходак, паказаць тэматычнае відэа. Ёсць і іншы, больш зручны спосаб — падарыць альбом «Помнікі мастацкай культуры Беларусі», што напрыканцы мінулага года пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь» пры падтрымцы Мністэрства інфармацыі нашай краіны. Над гэтым выданнем працавалі супрацоўнікі аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

— У пераважнай большасці праца вучоных нашага аддзела ў прыватнасці і Інстытута ў цэлым заключаецца ў стварэнні сур'ёзных навуковых работ, разлічаных на даследчыкаў, спецыялістаў з дастаткова вузкім колам прафесійных інтарэсаў, — распавядае загадчык аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука, — Але разам з тым мы прытрымліваемся думкі, што гэтыя даследаванні маюць права быць увасобленыя і ў выданнях, патэнцыяльна цікавых больш шырокаму колу чытачоў. Гэта ў першую чаргу ўніверсальная літаратура, дзе і спецыялісты, і аматары маглі б знайсці неабходную для сябе інфармацыю.

Некалькі год таму ўжо пабачыў свет альбом «Музей старажытнабеларускай культуры», дзе былі прадстаўлены найбольш каштоўныя і цікавыя прадметы з фондаў. Новае выданне таксама распавядае пра гэты музей, але ўжо пашыраючы межы папярэдняга, ды і сам матэрыял прадстаўляючы па-новаму. Тут ёсць досыць важкі аб'ём тэкставай інфармацыі: у першую чаргу артыкулы, прысвечаныя асобным відам мастацкай культуры, помнікам мастацтва, за імі ідуць ілюстрацыі твораў мастацтва.




— У гэтым выданні ілюстрацыі не проста дапаўняюць тэкст, — тлумачыць Барыс Андрэевіч. — Артыкулы прадстаўляюць шырокае бачанне тэмы, характарызуюць нашу мастацкую спадчыну, а ілюстрацыі паказваюць непасрэдныя прыклады гэтых відаў мастацтва — менавіта помнікі, што захоўваюцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. Важна таксама і тое, што кожная ілюстрацыя суправаджаецца навуковай анатацыяй: назва, інфармацыя пра тое, адкуль паходзіць гэты твор, яго кароткая гісторыя, памеры, матэрыялы, а калі гаворка ідзе пра творы жывапісу ці скульптуру, якія рэстаўраваліся, то ўказваюцца і прозвішчы рэстаўратараў. Гэтыя звесткі дазваляюць пашырыць дыяпазон альбома, выйсці за межы проста папулярнага выдання, зрабіць яго навукова-папулярным.

Кніга складаецца з некалькіх буйных раздзелаў, кожны з іх прысвечаны асобнаму віду мастацтва: іканапіс, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное, народнае мастацтва... У выданні ўпершыню шырока паказаны традыцыйны беларускі касцюм і традыцыйныя тканіны, уведзены ў шырокі ўжытак многія матэрыялы, звязаныя з беларускімі ручнікамі, пасцілкамі, паясамі, сурвэткамі, абрусамі. Тут шырока прадстаўлены прадметы побыту, мэбля, вырабы з дрэва, выцінанкі, вырабы з металу, слуцкія паясы і культавае адзенне, дзе выкарыстаны іх фрагменты. Значная колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу з'яўляецца ў друку ўпершыню. Варта звярнуць увагу і на помнікі мастацкай культуры, якія былі калісьці знойдзены ў чарнобыльскай зоне. «Гэта ўнікальны пласт нашай культуры, такія прадметы сёння можна пабачыць толькі ў музеях, і фактычна, толькі ў нашым музеі», — падкрэслівае Барыс Лазука.

Зразумела, што альбом разам з інфарматыўнай функцыяй выконвае і функцыю прэзентатыўную. Праз прызму прадметаў з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры ён распавядае пра нашу мастацкую культурную спадчыну ў цэлым.

— Як навуковай структуры нам вельмі хочацца, каб нашу працу цанілі і ў іншым аспекце: гэта і збіральніцкая праца, і праца па папулярызацыі мастацкіх помнікаў і каштоўнасцей, а таксама важкі ўнёсак у іх захаванне, — зазначае Барыс Андрэевіч. — Усё, што чытач пабачыць у альбоме, — гэта прадметы, якія прайшлі праз рукі і сэрцы многіх людзей. Яны калісьці выратавалі гэтыя каштоўнасці, захавалі, адрэстаўрыравалі. Большая частка прадметаў з альбома прадстаўлена ў экспазіцыі нашага музея, а значыць — яны даступныя для агляду і знаёмства.

Натуральна, што прэзентацыя такога ўнікальнага выдання павінна адбыцца ў незвычайнай форме. Так, разам з імпрэзай у Музеі старажытнабеларускай культуры, падчас якой будзе прадстаўлены альбом, адбудзецца і адкрыццё выстаўкі абразоў, адрэстаўрыраваных супрацоўнікамі аддзела старажытнабеларускай культуры, вядомымі майстрамі Ларысай Брыгілеўскай і Аляксеем Пуцінцавым.

*Прэзентацыя*

# Повязь эпох і пакаленняў

Новы раман «Камея "Салидат"» вядомай пісьменніцы і кандыдата гістарычных навук Наталлі Голубевай, што пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», быў прадстаўлены шырокай аўдыторыі ў кніжнай краме «Прэзентацыя».

**Юзэфа ВОЎК**

Гістарычны дэтэктыўны раман Наталлі Голубевай прысвечаны складаным і драматычным падзеям гісторыі Расіі пачатку XX стагоддзя, а таксама хітрасплячэнням разведак шэрагу еўрапейскіх краін і ЗША ў барацьбе за дамінаванне вядучых дзяржаў у Еўропе і свеце. Падчас прэзентацыі кнігі сама аўтарка прызналася:

— Дакладна вызначыць жанр твора досыць складана. Гэта і вострасюжэтны шпіёнскі раман: Еўропа жыве ў чаканні сур'ёзных падзей, у паветры адчуваецца небяспека, катастрофа, якая насоўваецца. І вось у ваеннае ведамства Расіі пачынаюць паступаць паведамленні агентуры пра тое, што актывізуецца цікавасць разведак Германіі, Англіі, ЗША да вучоных, якія даследуюць метадыкі ўплыву на свядомасць і падсвядомасць чалавека... Гэта ў той жа час і сямейная сага, што паказвае, як страшныя падзеі пачатку XX стагоддзя адбіваюцца на лёсе асобна ўзятай сям'і. Гэты раман — і гістарычнае даследаванне, і навука нам, сучаснікам: у свеце ўсё крохкае, і нават магутныя дзяржавы могуць быць знішчаныя ў адначассе. Хацелася напісаць і проста захапляльную, дынамічную кнігу, каб чытач пасля працоўнага дня на ноч перагартаў старонкі рамана і яму было б цікава, каб ён задумаўся пра мінулае, сучаснасць і будучыню.

Працуючы над раманам, аўтарка звярталася да архіўных крыніц, сапраўдных гістарычных дакументаў (у тым ліку і не так даўно рассакрэчаных файлаў з архіваў КДБ, што ўпершыню ўводзяцца ў навуковы зварот), каб ярка ўзнавіць эпоху, працавала з выданнямі пачатку XX стагоддзя (захоўваюцца ў фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь). Таму можна смела сцвярджаць, што выхад гэтай кнігі — падзея ў свеце не толькі мастацкай літаратуры, але і гістарыяграфіі Беларусі. Менавіта гэтую думку падчас свайго выступлення агучыў Уладзімір Адамушка, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук. Больш за тое, падзеям Першай сусветнай вайны, да якіх звяртаецца Наталля Аляксандраўна, у нас надаецца не так шмат увагі, як хацелася б.

Дарэчы, хутка чытачы змогуць пазнаёміцца з далейшым лёсам герояў рамана, бо і аўтарка, і выдаўцы паабяцалі парадаваць працягам гісторыі.




*Час чытаць*

# Імпульс для натхнення

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Аналізуючы яго палотны, мастацтвазнаўцы адзначаюць: Уладзімір Зінкевіч асэнсоўвае рамантычныя якасці навакольнага свету. Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, Ганаровы член Расійскай акадэміі мастацтваў, прафесар У. Зінкевіч адказвае на пытанні пра свае літаратурныя густы.



**— Уладзімір Леанідавіч, скажыце, ці можа кніга любімага ці нечакана адкрытага для сябе новага аўтара стаць штуршком для з'яўлення новага твора?**

— Безумоўна. «Восень патрыярха» Габрыэля Гарсія Маркеса мяне ўвесь час натхняе. З кожным дакрананнем да гэтай цудоўнай прозы прыходзіць разуменне таго, якое шматслойнае наша жыццё. З беларускіх аўтараў люблю Караткевіча. Уладзімір Сямёнавіч быў вялікі пісьменнік і вялікі чалавек. Яго творы — сведчанне: дрэннай гісторыі не бывае — ёсць няўдалыя спробы яе пераказаць. Люблю творы сербскага празаіка, паэта і літаратуразнаўцы Міларада Павіча.

**— Якія творы найбольш уразілі ў школьныя і студэнцкія гады?**

— У дзяцінстве я сам сачыняў розныя гісторыі. Тады быў дэфіцыт кніг у крамах. Канечне, было шмат добрых выданняў у бібліятэках, але мы, хлопчыкі, туды хадзіць ленаваліся, ды і не заўсёды атрымлівалася. Пазней ахвотна чыталі «пірацкія» раманы — самвыдат. Калі ўпершыню прачытаў «Майстра і Маргарыту» Міхаіла Булгакава, проста ашалеў — як маштабна можа мысліць чалавек!

**— Што б вы параілі ўключыць у спіс «абавязкова прачытаць» сваім студэнтам?**

— Лісты Пятрова-Водкіна (К. С. Петров-Водкин. «Письма. Статьи. Выступления. Документы»). Развагі пра мастака, сутнасць творчага працэсу, адносіны да жыцця. Яго падарожжы, яго бачанне свету. Кожны з будучых творцаў у гэтай кнізе знойдзе для сябе шмат цікавага.

# Экслібрысы Арлена Кашкурэвіча

Яркай падзеяй і ў галіне кнігавыдання, і ў галіне выяўленчага мастацтва Беларусі можна назваць выхад у свет кнігі «Беларускі экслібрыс. Арлен Кашкурэвіч» (укладальнік Ала Зміёва, прадмова належыць Ганне Ціханавай). Дадзеным выданнем дагэтуль невядомае выдавецтва «Навуковы свет» (кіраўнік — Ала Зміёва) распачало серыю кніг, прысвечаных беларускаму экслібрысу. Азіраючыся назад, задаешся пытаннем: «А што мы, беларусы, мелі дагэтуль падобнага кшталту?..» Так, экслібрысаў у нашай кніжнай гісторыі нямала. А вось выданняў...

**Ціт СЛАБАДСКІ**

У 1928 годзе пабачыла свет кніга А. Шлюбскага «Exlibris'ы А. Тычыны». У 1975 годзе — работа В. Шматава і А. Тычыны «Беларускі кніжны знак». У 1969 — 1970 гг. у Баранавічах дзякуючы руплівасці кніжніка і калекцыянера В. Палікарпава выдадзены буклеты экслібрысаў М. Тарасікава, В. Цыхановіча, Я. Цыхановіча, Я. Красоўскага, А. Тычыны. Ініцыятыўны і вельмі апантаны збіральнік экслібрысаў А. Судлянкоў ініцыіраваў выданне кніжачак беларускіх майстроў экслібрыса ў Кіеве (прадстаўлена творчасць Г. Вяля, Ю. Якавенкі, Р. Сустава). Многа гэта ці мала?..

У любым выпадку беларускі кніжны знак, добра вядомы літаральна ва ўсёй Еўропе, заслугоўвае шматкроць большай увагі. Варта трымаць у памяці, што ў Беларусі з XVII стагоддзя шырока развіваліся традыцыі ўжывання, а следам і стварэння экслібрыса.

Кніга пра экслібрыс народнага мастака Беларусі Арлена Кашкурэвіча выдадзена тыражом 99 асобнікаў, 33 з якіх нумараваны і ўключаюць арыгінальны экслібрыс, надрукаваны аўтарам. Выданне ажыццёўлена пры спрыянні кнігарні «Кніжны салон» (укладальніца — Ала Зміёва). Трэба ўсё ж удакладніць шэраг момантаў. Тыраж абмежаваны, бібліяфільскі. А значыць, кнігу многія проста і не ўбачаць. Ідэя, канцэпцыя і укладанне А. Зміёвай. Мастак серыі — Г. Мацур. Навуковы рэдактар — Г. Ціханава. Рэдактар серыі — Т. Рошчына. Серыя заснавана ў 2012 годзе. Дакладная назва творчага праекта — «Беларускі ex libris». Аддрукавана кніга ў ТДА «Нова Прынт» на дызайнерскай італьянскай паперы, друк афсетны. Папера даволі тоўстая. 78 старонак «цягнуць» на ладны фаліянт. 34 экслібрысы прадстаўлены ў «томе» Арлена Кашкурэвіча. Першая з работ (экслібрыс Гурыя Барышава) адносіцца да 1962 года. Апошнія па часе (экслібрысы Валерыя Палікарпава, Арлена Кашкурэвіча) выкананыя ў 2011-м... Лічы, паўвека работы над кніжным знакам! Большасць экслібрысаў зроблена ў 1990 — 2000 гады.







У прадмове да кнігі Ганна Ціханава зазначае: «Экслібрысам Арлен Кашкурэвіч займаецца на працягу ўсяго творчага шляху. Гэта магчымасць паэкспэрыментаваць у малым фармаце ці наадварот занатаваць ужо знойдзенае. Таму многія серыі мастака знайшлі сваё адлюстраванне і ў экслібрысе». І далей: «Сярод асноўных пазнавальных рысаў экслібрысаў Арлена Кашкурэвіча неабходна назваць экспрэсіўны малюнак, жывая лінія якога вельмі моцна глядзіцца за кошт даволі глыбокага траўлення ў афорце і выразнасці кантрасту чорнага і белага ў лінагравюры і літаграфіі. Тэматычна экслібрысы Арлена Кашкурэвіча можна акрэсліць у тры асноўныя групы: рэлігійныя, гістарычныя і казачна-гумарыстычныя».

Што да тэматычнага «водападзелу», то тэматыка кніжных знакаў Арлена Кашкурэвіча ўсё ж шмат шырэйшая. Як прыклад — эратычныя па тэме экслібрысы для таго ж калекцыянера і бібліяфіла Алега Судлянкова. Выкананы яны, дарэчы, у розныя гады — у 1975, 2000 і 2002 гадах...




Арлен Кашкурэвіч добра ведае «сваіх герояў», сяброў ці знаёмых, блізкіх людзей, для каго выконвае кніжныя знакі. Таму, відавочна, сама па сабе кніга з'яўляецца рэдкім госцем на афортах, лінагравюрах, літаграфіях. У 1968 годзе Арлен Кашкурэвіч выканаў экслібрыс для Міхася Марцінкоўскага. У цэнтры работы — самазадаволены бравы салдат Швейк. Не ведаю, на жаль, наколькі поўна ў кнігазборы М. Марцінкоўскага былі прадстаўлены выданні Яраслава Гашэка ці ўвогуле мастацкая літаратура падобнага кшталту. Але, пэўна ж, многія чытачы газеты «Літаратура і мастацтва» добра памятаюць Марціна Коўзкага — майстра кароткай сатырычнай, афарыстычнай фразы, які доўгі час друкаваўся на старонках штотыднёвіка. Таму і экслібрыс М. Марцінкоўскага (а ён ёсць Марцін Коўзкі) падаецца мне асабіста дастаткова красамоўным, гаваркім.

З выданнем кнігі экслібрысаў Арлена Кашкурэвіча і рэалізацыяй астатніх творчых праектаў новай серыі выдавецтва «Навуковы свет» можна смела звязваць новы этап у развіцці бібліяфільства ў краіне. Праўда, такая работа, атмасферу для якой у многім забяспечвае мінская кнігарня «Кніжны салон», яе гаспадыня Ала Зміёва, патрабуе больш шырокага інфармацыйнага забеспячэння. І ў гэтым плане нельга не ўлічваць вагу бібліяфільскай, калі так можна сказаць, грамадскасці. «Кніжнаму салону» ў справе пашырэння прысутнасці экслібрыса ў айчынным кніжніцтве патрэбна рознабаковая падтрымка.

## Азбука Морзэ

• З дзейнасцю Літаратурнай гасцёўні пры газеце «Воскресение» наведвальнікі XI духоўна-асветніцкага кірмашу «Раство Хрыстова» ў Палацы мастацтваў добра знаёмыя. Сведчанне таму — запоўненая аматарамі паэзіі і музыкі глядзельная зала і колькасць аўтографаў, якія пакінулі ўдзельнікі вечара — аўтары твораў, што ўвайшлі ў калектыўны зборнік «Пред дверью вечности». У канцэрце «Напярэдадні Раства», які сёлета ладзілі рэдакцыя газеты і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, гучалі вершы рускіх класікаў у выкананні вядучых імпрэзы — акцёра тэатра і кіно Яўгена Піменава і актрысы Тэатра юнага гледача Алены Шабад. Выступалі Валянціна Паліканіна, Ала Чорная, Алена Міхаленка, Вольга Норына. Шчырымі апладысментамі віталі гледачы выступленне сямейнага дуэта Алены і Яўгена Піменавых, Наталлю Мальгіну, Вольгу Міхаленку, Таццяну Дашкевіч, флейтыстку Марыну Пашкевіч.

**Вольга ПАЛОМЦАВА**




— Новы праект — выданне маленькіх кніжачак серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» — распачаўся ў выдавецтве «Харвест». У цэнтры ўвагі аўтараў кніг апынуліся адметныя постаці культуры, літаратуры, мастацтва XIX — XX стагоддзяў, якія ўвасаблялі ў сваім жыцці і творчасці нацыянальныя погляды на гісторыю, культуру Бацькаўшчыны. Мэта серыі не ў тым, каб даваць падрабязныя біяграфіі, а каб выяўляць непасрэдны ўнёсак кожнага дзеяча ў скарбніцу нашай нацыянальнай культуры. Ужо пабачылі свет кнігі пра мастака Міхала Андрыёлі, даследчыка-фалькларыста Мітрафана Доўнар-Запольскага, а таксама выдатнага тэатральнага дзеяча Фларыяна Ждановіча. Па задумцы аўтараў, серыю складзе 100 брашур па 64 старонкі ў кожнай і штогод будзе выходзіць па 10 кніжачак. Такім чынам, бібліятэчка са 100 маленькіх цаглінак, прысвечаных выдатным дзеячам нашай культуры,ператворыцца ў трывалы падмурак нацыянальнай свядомасці і ведання ўласнай гісторыі і культуры. Дарэчы, аўтары серыі ўжо распрацавалі спіс асоб, на дзейнасць якіх будзе звернута ўвага, але ён пакуль складаецца ўсяго з 75 «пунктаў». Так, чытачы «Кніжнага свету» могуць стаць не толькі ініцыятарамі задумкі новага выдання (у спісе застаецца яшчэ 25 «вакансій»), але і аўтарамі тэкстаў наступных брашур.

**Юзэфа ВОЎК**

• Гомельскае выдавецтва «Барк» парадавала чытачоў арыгінальным выданнем — кароткім слоўнікам-даведнікам «Новые слова и их значения в современных газетных текстах». Яго аўтар-складальнік Арцём Стрыжак уключыў у кнігу неалагізмы і агульнаўжывальныя словы, якія цягам апошніх 20 год атрымалі новыя значэнні. Іх уваходжанне ў нашую моўную свядомасць абумоўлена сістэмнай трансфармацыяй грамадства і імкненнем журналістаў знайсці найбольш выразныя сродкі для ацэнкі новых рэалій. Мэтанакіраваная праца з расійскімі і рускамоўнымі беларускімі газетамі дазволіла аўтару выдзеліць найбольш выразныя сродкі для апісання рэчаіснасці. У кнізе прыводзяцца тлумачэнні слоў і ўстойлівых словазлучэнняў, выкарыстоўваецца сістэма памет. У выпадках, калі гэта неабходна, указваюцца звесткі пра зыходнае значэнне слоў, а таксама энцыклапедычная інфармацыя пра гістарычныя падзеі і асоб. Усяго ў слоўнік уключана 1131 слова і выраз.

**Міхась СЛІВА**

## На паліцы

# Чым будзе жыццё?

Тым, чым яно і павінна быць: дараваным Богам і прыродай быццём, поўным гармоніі і, вядома, супярэчнасцей, адказвае сваёй новай кнігаю Алесь Макоўскі.

**Ірына ТУЛУПАВА**

«Ціхае жыццё» — такую назву мае зборнік апавяданняў, які выйшаў у мінулым годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Нарадзіўся аўтар у адной з вёсак Дзяржынскага раёна, што на Міншчыне. І, відаць, не раз быў сведкам тых жыццёвых эпізодаў, якія пасля ўвасобіліся ў яго мастацкіх творах. Алесь Макоўскі — аўтар не толькі апавяданняў, але і кніг нарысаў «Сябрытаварышы», «Майстры добрага настрою» , адзін з аўтараў калектыўнага зборніка прозы «Ранішняя дарога», зборнікаў сатыры і гумару «Крыштальная душа» і «Кубік Рубіка». Лаўрэат літаратурнага конкурсу газеты «Звязда» за 2010 год.




Новая кніга — пра прысутнасць на гэтай зямлі. Не скажаш, што аўтар — майстра ў стварэнні партрэтаў. Лёгкімі намёкамі ён толькі пазначае, якім бы мог быць Homo sapiens: «З люстэрка на мяне глядзіць сумны, паўнаваты, з крыху абвіслымі шчокамі, твар стомленага чалавека з патухлым позіркам цёмных вачэй». Але гэта хутчэй вобраз-выключэнне, той творца-адзінотнік, які крытычна ўзіраецца не толькі ў сваіх блізкіх, а і ў самога сябе. Прычым, чалавек ніяк не адарваны ад прыроднага асяроддзя: як бы ні хацелася яму аддаліцца ад першароднага — не выпадае. Вельмі абгрунтаванай пры гэтым бачыцца сама кампаноўка творчага матэрыялу ў кнізе: пачынаецца гаворка з чытачом невялікімі замалёўкамі-эсэ пра жывёл ды птушак. А чалавек як галоўны герой з'яўляецца пазней, калі прыроднае асяроддзе падрыхтаванае да з'яўлення разумнага жыцця. Кім жа ўбачыцца яго прадстаўнік: гаспадаром, уладаром, Чалавекам з вялікай літары? Ці кволым аматарскім шаржам на аднаго, другога і нават трэцяга?

Сапраўднае аблічча галоўнага героя Макоўскага вымалёўваецца ў пэўных абставінах. Прычым, аўтар не рыхтуе іх для героя, яны гэтак жа павольна ахінаюць апошняга, як павольна апускаецца змрок на зямлю, як нетаропка ўзыходзіць восеньскае сонца. Але... невытлумачальнымі часам становяцца ўчынкі: і вось ужо ў пару, «калі самае сена», сяльчанка едзе ў санаторый («У санаторыі»), а малады халасцяк купляе ў інтэрнат маленькіх хатніх рыбак («Акварыум»). Да чаго гэта прывядзе... ведае і аўтар-філосаф, які збоку назірае за людскімі стасункамі.

Зрэшты, у кожнага творцы не толькі адметны стыль пісьма, а і гранічна дазволеная хуткасць развіцця сюжэта. Хочаце ўключыцца ў чытацкі рух — набывайце кнігу. Ціхае жыццё — не заўсёды тое, у якім нічога не адбываецца...

*Творчыя стасункі*

# Ад валёнак да абстракцыі

Выстаўка арт-аб'ектаў з нятканага ваўнянага палатна (свяцільнікі, карціны, інсталяцыі) пад незвычайнаю назваю «НаПраСьвет» з поспехам прайшла ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Гэты праект, паводле задумы арганізатараў, дазваляе па-іншаму зірнуць на старадаўні матэрыял, традыцыйную тэхналогію валяння і на лямец як выразны сродак сучаснага тэкстылю.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

У выстаўцы ўзялі ўдзел 12 беларускіх мастакоў і майстроў. Сярод іх — Анастасія Арайс, Людміла Дамянкова, Наталля Аждзер, Вераніка Багачова. А таксама ганаровыя госці: Гуніла Пэтаў Шоберг (Швецыя—Фінляндыя) і Наталля Ігнацьева (Расія). Дарэчы, воўнай у Беларусі займаецца шмат людзей. Прыхільнікі лямцу ўпэўнены: экалагічны і прыдатны для ўсяго матэрыял можа «жыць» у кожнай хаце. Ды ўсё ж, чаму выстаўка атрымала менавіта такую назву?

— Наша выстаўка пазнаёміла гледача з тым, што схавана пад абалонкай штодзённасці, — сцвярджае мастак і куратар гэтага праекта Анастасія Арайс. — Зірнуўшы «напрасвет» на нятканае лямцавае палатно, мы бачым непаўторную індывідуальнасць, бо канчатковая мэта кожнага арт-аб'екта — не ён сам, а візуальны эфект, гульня святла ў ім. Вось і атрымаліся такія інсталяцыі са святу і паветра. У працэсе работы, падчас правядзення эксперыментаў майстры пераканаліся ў тым, што дастаткова тонкае лямцавае палатно валодае ўнікальным малюнкам, прычым ён можа кантралявацца і не кантралявацца чалавекам. Атрымаць такі эфект з іншым матэрыялам немагчыма. Гэта ўнікальныя ўласцівасці лямцу.



*«Нябесныя светлякі» (фрагмент трыпціха) — работа Вольгі Коневай. Воўна, тканіна.*



*«Ракавінка» — работа Ірыны Лагуноўскай. Лямец, баваўна.*

Пяць гадоў таму шведска-фінская мастачка Гуніла Пэтаў Шоберг, якая ўжо больш як 35 гадоў займаецца воўнай, упершыню прыехала ў Беларусь, каб падзяліцца з усімі жадаючымі ўнікальным досведам. Яна нават напісала кнігу, якую, на жаль, ні на беларускую, ні на рускую мовы яшчэ не пераклалі. Мастацкія творы Гунілы дэманстраваліся ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва падчас яе персанальнай выстаўкі два гады таму.



*Гуніла Пэтаў Шоберг прадстаўляе сваю інсталяцыю «Зімовы харал» (фрагмент). Лямец, лён.*

— Калі зіма, нам холадна, і мы хочам перш за ўсё сагрэцца, — казала Гуніла падчас сваёй лекцыі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, дзе сабралося шмат яе паслядоўнікаў. — У гэтым нам могуць дапамагчы воўна і святло, што ліецца на нас з мастацкіх твораў. Вельмі здзіўлена тым, якіх поспехаў дасягнулі ў гэтай галіне беларускія майстры. Гэтым разам на ўспамін пра Беларусь я павязу дамоў ажно пяць пар выдатных валёнак.

Нарадзілася Пэтаў Шоберг падчас Другой сусветнай вайны ў маленькім фінскім горадзе. Пасля вайны, успамінае Гуніла, не было ні вопраткі, ні ежы, таму яе бацькі ўзялі семярых дзяцей і пераехалі на фінскі востраў Обу. Сям'я мела маленькую гаспадарку, трымалі і авечак, прычым у кожнага з дзяцей была свая авечка. Зімовымі вечарамі ў іх дом прыходзілі суседскія бабулі з часалкамі і працавалі з воўнаю. Потым склалася так, што Гуніла выйшла замуж за шведскага хлопца і пераехала жыць у Швецыю.

Неяк, гуляючы па лесе, яна ўбачыла шэрую гару. Для Швецыі не дзіўна, калі кавалак гары тырчыць з зямлі. Але гэтая была са стрыжанага руна. Маладую жанчыну нібы маланкаю ўдарыла, і яна адразу палюбіла гэты матэрыял, узгадала і авечак, якіх даглядала ў дзяцінстве. Так, праз 20 год, Гуніла зноўку сустрэлася з «жывой» воўнаю, а да гэтага ўвесь час працавала толькі з тэкстылем. У 1976 годзе ўпершыню зрабіла штосьці ўласнымі рукамі з дзіўнай па сваіх уласцівасцях сыравіны і атрымала вялікае задавальненне ад самога працэсу. З таго часу большую частку жыцця прысвяціла выкладанню і распаўсюджванню ведаў пра воўну і тое, што можна з яе вырабіць.

Выстаўка арт-аб'ектаў і інсталяцый з воўны падвяла рысу пад пачатковым этапам фарміравання сапраўдных мастакоў па лямцы ў нашай краіне. Пяць гадоў таму толькі нараджаўся новы і цікавы напрамак у мастацтве. Спачатку падключылася шмат умельцаў, якія ўспрымалі такі занятак як хобі, таму што з лямцу можна вырабіць і цацкі, і валёнкі, і біжутэрыю. Пяць гадоў пайшло на тое, каб лямец «дарос» да ўзроўню творчага матэрыялу, да стварэння мастацкіх аб'ектаў.

— У далейшым мы хочам развіваць менавіта ў гэтым кірунку, каб людзі ўбачылі дзіўную прыгажосць і зразумелі, што лямец — унікальны матэрыял, — падкрэсліла Вераніка Фаміна — майстар па валянні і куратар выстаўкі. — Вырабы з лямцу могуць служыць упрыгажэннем для інтэр'ераў, нават для вялікіх памяшканняў, што таксама важна, бо мы павінны бачыць прыгажосць усюды і ва ўсім. Спадарыня Гуніла спрыяе распаўсюджванню воўны як вельмі сучаснай сыравіны і нават як матэрыялу будучыні, а мы ганарымся тым, што для беларусаў воўна, якую так любілі і паважалі нашы продкі, — добрая традыцыя. І сёння гэты матэрыял вяртаецца да нас часцей у якасці твораў сучаснага мастацтва.

*Вытокі*

# Любіць сваё

Беларускія настаўнікі яшчэ напрыканцы XIX ст. вылучаліся тым, што займаліся краязнаўствам. Менавіта на іх абапіралася Імператарскае геаграфічнае таварыства, якое вывучала Паўночна-Заходні край.

**Сымон БАРЫС**

Магчыма, мэты таварыства не заўсёды супадалі з поглядамі настаўнікаў, але дзякуючы іх праўдзівай інфармацыі мы можам сёння заглыбіцца ў мінулае свайго краю і Беларусі на паўтары сотні гадоў. Пэўную інфармацыю даюць нам старыя запісы вясковых святароў, якія іншы раз вялі летапіс свайго прыходу. У другой палове XIX ст. Беларускі край вывучалі і афіцэры Генеральнага штаба Расійскай імперыі. На аснове іх даследаванняў напісаны кнігі.




Многія савецкія і сённяшнія беларускія настаўнікі паспяхова займаліся і займаюцца краязнаўствам. Летась была выдадзена кніга настаўніка беларускай мовы і літаратуры, жыхара вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Алеся Зайкі «Населеныя пункты Івацэвіччыны». Гэта плён шматгадовай працы ў архівах і кнігасховішчах Беларусі і за яе межамі. Свае веды пра гісторыю і сучаснасць паселішчаў ён пашырыў падчас вандровак па раёне, сустрэч і гутарак са старажыламі. У немалой кнізе — больш як 300 старонак — апавядаецца кароткая гісторыя 117 паселішчаў. Некаторых з іх ужо няма. Такім чынам, гэтае выданне — своеасаблівы помнік зніклым вёскам.

Напрыклад, вёска Краснíца вядома з 1554 года як уладанне каралевы Боны Сфорцы. Падчас Першай сусветнай вайны яе жыхары вымушаны былі пакінуць родныя мясціны і падацца ў Расію. Вярнуліся дамоў у пачатку 1920-х гадоў. Але зноў вайна. У верасні 1942-га падчас карнай аперацыі супраць партызан фашысты спалілі ўсе 16 хат і забілі 90 чалавек. Вёска не адрадзілася. На яе месцы ў 1950 годзе паставілі абеліск. Увекавечана памяць пра паселішча і ў «Хатыні».

Аўтар раскрывае паходжанне геаграфічных назваў альбо дае ім сваё тлумачэнне. Напрыклад, вёска Яблонка: «А было відаць так: раскарчавалі лес пад поле, а маленькую яблыньку ўзялі і пакінулі: «Няхай расце!» — і назвалі сваё паселішча людзі Яблонка». Забаўна і проста. У іншых месцах аўтар спасылаецца на факты і гістарычныя крыніцы альбо на тлумачэнні іншых даследчыкаў.

Перад Алесем Зайкам часта ўзнікае праблема: аддаць перавагу расповеду ці выкласці больш лічбаў і фактаў. Аўтар імкнецца спалучыць і адно, і другое. Зразумела, зрабіць гэта вельмі цяжка, але кніга не перагружана лічбамі і чытаецца з вялікай цікавасцю.

*Захапленні*

# Свет лялек — дзіўны і чароўны

Вы памятаеце лялькі свайго дзяцінства? Я — памятаю. Колькі часу праводзіла з імі! Дагэтуль адна з маіх дзіцячых сяброўак задуменна сядзіць на шафе ў доме бацькоў, хоць прайшло шмат гадоў. Ды лялька практычна не змянілася, хіба толькі калісьці прыгожая шаўковая сукеначка сведчыць пра хуткабежны час.

**Святлана ЛІПСКАЯ,**
**фота аўтара**

Гэты чысты і светлы ўспамін навеяла выстаўка лялек, якая ладзілася ў Лельчыцкай дзіцячай бібліятэцы, цэнтры для дзяцей і юнацтва. На ёй былі прадстаўлены арыгінальныя работы Таццяны Пятрышынай, былога бібліятэкара Лельчыцкай сярэдняй школы № 2, цяпер — пенсіянеркі.

Памятаю, зойдзеш у бібліятэку — Таццяна Яфрэмаўна заўсёды спытае, ці спадабалася прачытаная кніга. Яна мела дзіўны дар захапіць, зацікавіць. Пасля гутарак з ёю абавязкова хацелася пазнаёміцца з творчасцю таго ці іншага пісьменніка. А яшчэ бібліятэкар вяла ў школе танцавальны гурток. Дзяўчынкі хадзілі да яе з вялікім задавальненнем. Касцюмы да кожнага танца для сваіх выхаванак яна шыла сама, хутчэй за ўсё, вечарам ці ноччу. Перад вачамі дагэтуль — сапраўдныя, без перабольшвання, творы мастацтва, створаныя дзякуючы багатай фантазіі майстрыхі.

А калі чалавек творчы, то ён не можа без справы, любімага занятку. Так і Таццяна Яфрэмаўна. Ужо шмат гадоў яна калекцыяніруе лялек. Толькі не проста збірае іх. Яна нібы ўдыхае ў іх другое жыццё, ствараючы арыгінальныя, непаўторныя работы. Калі казаць сучаснай мовай, то Таццяну Яфрэмаўну можна смела назваць стылістам-дызайнерам. Сукенкі для лялек яна вяжа кручком, шые. Сама прыдумляе ім прычоскі, падбірае біжутэрыю. Адным словам, стварае закончаны вобраз. Паверце, выбраць з гэтых лялек-прыгажунь нейкую адну і назваць яе лепшай проста немагчыма, таму што кожная па-свойму незвычайна прыгожая. І што дзіўна, створаныя з такой любоўю лялькі таксама нібы выпраменьваюць святло і цяпло.



*Лялькі, створаныя Таццянай Пятрышынай.*

# Усе мы родам з вёскі


*Мсціслаў. 2010.*

«Сапраўдны фатограф не павінен быць шматслоўным — за яго павінны гаварыць фотаздымкі», — лічыць Уладзімір Шарнікаў, беларускі фотамастак, які ўжо дзесяць год вандруе па краіне ў пошуках хараства, самабытнасці і культуры. І яго творы — прамое пацвярджэнне аўтарскага крэда: яны зноў і зноў вядуць маляўнічы расповед пра Беларусь і яе жыхароў.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

«Паслухаць» такі расповед можна на выстаўцы «Народная архітэктура беларускай вёскі ў фатаграфіях Уладзіміра Шарнікава», якой адкрыў сезон свайго 90-годдзя філіял Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей І з'езда РСДРП».

Усё пачалося ў 2003 годзе, калі ветэран Афганскай вайны бабруйчанін Уладзімір Шарнікаў, ужо будучы пазаштатным фотакарэспандэнтам газет «Шиннік» (Бабруйск), «Прессбол» (Мінск), узяў за мэту аб'ездзіць усю Беларусь і адлюстраваць вёскі такімі, якія яны ёсць. Пры гэтым фотамастак не збіраўся хадзіць па хатах для збору фактаў і статыстыкі. Галоўнай яго задачай стала захаванне візуальных вобразаў вёскі, яе жыхароў. Да таго ж, з практычнага пункту гледжання, такія фотаздымкі, асабліва з элементамі архітэктуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, заўсёды можна будзе выкарыстаць для аднаўлення гістарычнай спадчыны.

— За тыя дзесяць год, што я займаюся сваім праектам, я наведаў 2303 населеныя пункты Беларусі, зрабіў каля 2000 фотаздымкаў, — распавядае Уладзімір Шарнікаў. — Мне цікава фатаграфаваць вёскі, бо гэтай архітэктуры хутка не будзе — як ні круці, вёска вымірае, хацелася б нам гэтага ці не. Па-другое, цяпер калі што і робіцца, то з пластыку, ды тое пры ўмове, што населены пункт буйны і там засталося шмат мясцовых жыхароў. Маленькія і сярэднія вёсачкі проста знікаюць з мап краіны, асабліва ў Магілеўскай, Гомельскай абласцях, ва ўсходнім баку Віцебскай. Сумна бачыць, як паступова знікае дух краіны. Ведаеце, за свае вандроўкі я толькі адзін раз пабачыў у вёсцы новы калодзеж. Як водзіцца, калі ў цябе ў руках фотаапарат, цябе прымаюць за карэспандэнта. Так, да мяне аднойчы звярнуліся мясцовыя, каб я праз газету папрасіў адраманціраваць ім калодзеж. У мяне неяк хапіла розуму не засмяяцца, бо зразумеў — адрамантаваць яго проста няма каму. Гэта было ў 2005 годзе. Хто ведае, можа, ужо і вёскі той няма.


*Ваўкалата. 2007.*

Жыхары вёскі, сяляне, іх дзеці; дамы, разныя вокны, калодзежы, прырода. І ва ўсім гэтым — неабсяжная любоў мастака да Радзімы, жаданне звярнуць увагу людзей на праблемы вёскі, дапамагчы захаванню культурнай спадчыны, душы беларускага народа.

Паводле мастака, каб зрабіць адну добрую фатаграфію, часам трэба прайсці па 10 — 15 вёсках:

— Я звычайна выбіраю маршрут наўгад, але пралічваю ўсё так, каб ахапіць за адзін раз як мага больш населеных пунктаў. Дзе быў хоць адзін раз, туды ўжо стараюся не вяртацца, бо яшчэ шмат чаго трэба пагледзець. Бывае, за дзень праходзіш кіламетраў 20, з машынай, зразумела, прасцей. Але гэта таго варта — кожная вёска цікавая і ўнікальная па-свойму. Людзі з глыбінкі больш адкрытыя, прасцей ідуць на кантакт, пытаюцца, да каго я прыехаў, ці патрэбна дапамога, заўсёды дарогу пакажуць — для іх новы чалавек, асабліва з фотаапаратам — гэта ўжо вялікая падзея. Зразумела, шмат розных момантаў было. Напрыклад, неяк запытаўся ў адной старэнькай бабулькі, ці ёсць у іх вёсцы што-небудзь цікавае, яна і адказала, што ёсць — сонейка свеціць. Ці неяк распавёў мясцовым старым, што шукаю прыгажосць, а яны здзівілена: "У нашай вёсцы?" Вось такая праўда жыцця. На выстаўцы прадстаўлена толькі маленькая частка знятай спадчыны.

— Уладзімір Шарнікаў — сапраўдны спадзвіжнік, які захоўвае для нашчадкаў сувязь гісторыі і этнаграфіі, — лічыць куратар выстаўкі Уладзімір Паўлаў. — Экспазіцыя змяшчае каля 24 работ фотамастака, але справа не ў тым, колькі іх — справа ў якасці. Мы зрабілі гэту выстаўку, каб распавесці суайчыннікам пра Уладзіміра, яго справу. Усё, што ён робіць — абсалютна за свой кошт, пачынаючы з вандровак і заканчваючы друкам фотаздымкаў.

І сапраўды, не кожны чалавек, нават з высокімі маральнымі ўстаноўкамі, на працягу 10 год будзе сціпла і якасна рабіць сваю справу, не чакаючы дапамогі ды прызнання. Нездарма Уладзіміра Шарнікава называюць мастаком, які «здымае сэрцам», хаця сэрца з гадамі не маладзее, не робіцца больш здаровым. Выстаўка працягнецца да 10 лютага, таму знайсці час для наведвання можа кожны. Галоўнае — памятаць, што, перафразуючы вядомую песню, усе мы родам з вёскі, а што будзе, калі мы забудземся на гэта, — і так зразумела.

# Арт-кірмаш у Амстэрдаме распачаўся

Арт-кірмаш «Realisme», прысвечаны фігуратыўнаму мастацтву, будзе праходзіць да 20 студзеня ў Амстэрдаме. Каля 34 найбольш вядомых і ўплывовых галандскіх і бельгійскіх мастацкіх галерэй прадэманструюць работы мастакоў, якія працуюць у стылі рэалізму. Сярод іх — наша зямлячка Вікторыя Каваленчыкава, якая таксама прадстаўляе на арт-кірмашы сваю мастацкую галерэю.

**Зоя АЛЕКСАНДРОВІЧ**

Амстэрдам нездарма з'яўляецца цэнтрам мастацтваў у Паўночнай Еўропе — галандскія жывапісцы нястомна стваралі тут свае рэалістычныя працы як у часы Рэнесансу, так і ў XVII — XX ст. Традыцыя актыўна працягваецца мастакамі і незлічонымі мастацкімі галерэямі горада. Да таго ж пачынаючы з 2003 года ў багатым на культурніцкія падзеі Новым Вавілоне (як часам называюць сталіцу Галандыі) раз на год, звычайна ў сярэдзіне студзеня, праводзіцца арт-кірмаш «Realisme», прысвечаны фігуратызму. На працягу чатырох дзён каля 30 вядомых і найбольш уплывовых мастацкіх галерэй Нідэрландаў і Бельгіі прэзентуюць свае калекцыі. Падчас арт-кірмашу праходзяць не толькі выстаўкі, але і лекцыі, майстар-класы, а напрыканцы такога своеасаблівага фестывалю спецыяльнае журы ўзнагароджвае лепшага мастака.

Як ужо зазначалася вышэй, падчас «свята рэалізму» сустрэць земляробаў можна будзе не толькі сярод наведвальнікаў шматлікіх галерэй, але і сярод творцаў: адна з удзельніц сёлетняга арт-кірмашу — беларуская мастачка Вікторыя Каваленчыкава, якая ганарыцца сваімі беларускімі каранямі, атрымана́й на радзіме адукацыяй і не стамляецца распавядаць іншаземцам, часам не вельмі абазнаным у геаграфіі, што Беларусь — дзяржава, якая размяшчаецца ў самым цэнтры Еўропы.

Вікторыя нарадзілася ў Магілёве і ўжо з трох гадоў ведала, што будзе мастачкай. Спачатку была школа з мастацкім ухілам у родным горадзе, потым — каледж імя Ахрэмчыка ў Мінску і Акадэмія мастацтваў, дзе дзяўчына стала стараннай вучаніцай урбаніста Мая Данцыга і сама пачала маляваць гарады — беларускія, нямецкія, галандскія, іспанскія. У Амстэрдаме Вікторыя жыве з 2008 года, менавіта тады яна і адчыніла прыватную мастацкую галерэю, дзе не толькі экспануе свае творы, але і ладзіць выстаўкі іншых беларускіх мастакоў і скульптараў (такіх, як, напрыклад, А. і К. Шапо, М. Дробыша, В. Мінько, А. Шомава і інш.), папулярызуючы беларускае мастацтва за мяжой. Акрамя таго, мастачка ў 2010 годзе правяла сем арт-кірмашоў (вельмі шырокае прадстаўленне самых розных мастацкіх галерэй): пяць — у Галандыі, адзін — у Лондане і адзін — у Кнока. Вікторыя — удзельніца больш як 55 персанальных і групавых выставак у Беларусі, ЗША, Швейцарыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Бельгіі, Галандыі, Расіі. Мае





такія ўзнагароды. як грамата Міністэрства культуры «За ўнёсак у развіццё беларускай культуры за мяжой» і залаты медаль «Lorenzo Il Magnifico» на VIII Міжнароднай біенале сучаснага мастацтва (2011, Фларэнцыя).

Вікторыя не забываецца на Радзіму: менавіта яна даслала запрашэнне на арт-кірмаш «Realisme» ў Амстэрдаме ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва». Таму, калі вы жадаеце апынуцца на свяце фігуратывізму ў сталіцы Галандыі і маеце для гэтага магчымасць, — смела накіроўвайцеся да аэрапорта і памятайце: у Амстэрдаме ёсць і нашы людзі!

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 292-22-03
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2698
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.01.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 42
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13003